# Станіслаў Шушкевіч: Калі Беларусь атрымае ядзерную зброю — яна загіне

Старонка 9.

№ 12 (849) 26 сакавіка 2014

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# Ідэальныя выбары

Іх можна адмяніць, як і «Дажынкі». **Старонкі 2—3.**



Сяргей Гудзілін

**Музыка**

## «Ламай сцэнар!»

Лявон Вольскі прэзентаваў альбом «Грамадазнаўства». **Старонка 11.**



**Крымінал**

## Мама і тата трапілі за краты

Рэзанансное забойства рэпетытара ў Гомелі. **Старонка 7.**



**Гісторыя**

## Адказ патрыярху Кірылу

Невядомыя абставіны «вызваленчага» паходу Івана Жахлівага. **Старонка 12.**



**Літаратура**

## Як я бег па замерзлай Ашмянцы і горка плакаў

Новае апавяданне Віктара Шукеловіча. **Старонка 13.**



## Канечне падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Ідэальныя выбары, якія можна

**8:23** — намаляваныя на асфальце рознакаляровыя вялікія сляды паказваюць мне шлях да ганка. На чырвона-бардовай шыльдзе надпіс — «Сухаградскі №18». Выбарчы ўчастак. Горад — Жодзіна. Выбары ў мясцовыя саветы дэпутатаў.




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Чароўная палітра

Двухпавярховы будынак Цэнтра дзіцячай творчасці заліты сонцам. Адразу на прыступках мяне сустракае старшыня выбарчай камісіі, жанчына ў чорным пінжаку і белай кашулі з бэйджыкам. «А вы хто?» Пачынаю тлумачыць. «А, ну да, канечне», — жанчына паказвае на другі паверх. Там у актавай зале стаяць скрыні для галасавання і сядзяць сябры выбарчай камісіі. Выдзелены для аховы ўчастка міліцыянт расслаблена пазірае ў акно... «Так-так, канечне. Фатаграфуйце. Мы працуем», — ці то запэўнівае мяне, ці то падбадзёрвае сябе старшыня камісіі.

«Так. Ідзіце сюды. Вас трэба запісаць?» — кліча мяне маладая жанчына. Свежы манікюр, некалькі пярсцёнкаў, не па сезоне лёгкая спаднічка жоўта-леапардавага колеру. Нарэшце яна, сакратарка камісіі, знайшла патрэбны сшытак. Над летнім дэкальтэ ў яе прымацаваны бэйдж. З-пад стала чуецца цокат абцасаў... У падобных сукенках я сустракаў людзей на вяселлях і юбілеях. Бачна, што выбары для гэтай сакратаркі не менш значная падзея ў жыцці. Хоць, можа, ёй проста падабаецца так выглядаць, і нават у дзень галасавання яна ўпэўнена падкрэслівае сваю бязгустоўную сэксапільнасць. «А што вы так рана? Здаровы сон — карысны», — запісала яна мае дадзеныя першым радком у сшытак пад назвай «Журнал рэгістрацыі супрацоўнікаў СМІ».

Відаць, я быў першым, хто парушыў здаровы сон гэтага выбарчага ўчастка. У гэты момант старшыня камісіі кіравала мужчынам, які прынёс вазон з папараццю ў актавую залу. «Во сюды, хай будзе як бы аазіс», — падказвала яна, і мужчына паставіў кветку за скрыняю для галасавання.

Жанчына ў чорным пінжаку была гатовая даць адказ на любое пытанне. Да выбараў, да ўсёй іх сістэмнай складанасці яе ўчастак гатовы. Ён перажыў некалькі праверак з гарвыканкама і цяпер функцыянуе так, як трэба па ўсіх метадычках.

«Да вас у нас было шмат людзей. А цяпер... снедаюць», — дзяжурна, з тонам справаздачнасці, але неяк нервова кажа мне старшыня. У яе вачах страх і непакой. На гадзінніку трохі больш за 8.30, а яна так добра гатовая да гэтых выбараў, што ведае ўсё, што адбываецца з выбаршчыкамі на яе ўчастку. Гэта страх бюджэтніка, якому начальства даручыла правесці выбары «красіва», так, як трэба. Гэтае "як трэба" парушыў я сваім прыходам. Кожнаму з супрацоўнікаў камісіі, хто не першы раз удзельнічае у выбарах, вядома гэтае пачуццё. Ну, відаць, акрамя той сакратаркі ў гарэзлівай сукенцы. Верагодна, што ў яе гэта «першыя выбары». Але яна не разгубіцца, не засумняваецца, бо побач — дасведчаны кіраўнік у чорным пінжаку.

«Ой, а сфатаграфуйце ўжо і нас. За сталамі. Такі важны момант. Наша супольная праца. Памяць», — просіць мяне старшыня камісіі. Яе падначаленыя робяць свае паставы раўнейшымі, глядзяць у кадр, і я націскаю на кнопку. За іх спінамі, на сценах Цэнтра дзіцячай творчасці, — выстава дзіцячых малюнкаў «Чароўная палітра».

Першага за сёння выбаршчыка я пабачыў, калі выходзіў з участка. Мужчына ў камуфляжы-робе выйшаў з «Жыгуля» і з пашпартам у руцэ ўвайшоў у будынак.

### «Вясновы настрой»

**8:57**, паліклініка горада Жодзіна. Наступны ўчастак. Два дзясяткі прыступак да ўвахода размаляваныя ў чырвона-зялёны колер. Іх упэўнена пераадольваюць дзве жанчыны-пенсіянеркі. У будзень на гэтых прыступках ажыўлены рух, і людзі падымаюцца па іх, каб дапамагчы свайму здароўю. Але сёння нядзеля, і дзве пенсіянеркі ўжо ўвайшлі ў будынак, каб дапамагчы беларускай выбарчай сістэме. Насупраць увахода — рэгістратура паліклінікі. У акенцы сядзіць дзяжурны доктар.

**9:12**, школа №4. У даўгім калідоры карobkі-трохпавярховіка — участак. Няўпэўнена заходжу і іду, азіраючыся, у бок буфета. Сябра камісіі, якая сядзела бліжэй да мяне: «Так, спачатку ў буфет, а потым да нас». Буфет заняў усю

**Не дажылі да выбараў**

Выбары не адбыліся толькі ў сямі з 18816 акругаў. На дзвюх безальтэрнатыўных акругах кандыдаты памерлі да выбараў, яшчэ аднаго, дырэктара Слонімскай прадзільнай фабрыкі, прыцягнулі да крымінальнай адказнасці.



**Рэкамендуем**

### Штурм віленскага тэлецэнтра: гісторыя хлусні і прапаганды

Чаму ў Літве спынілі рэтрансляцыю расійскага НТВ?

Чытайце на nn.by

**Апытанні на nn.by**

**Ці пойдзеце Вы на мясцовыя выбары?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 218 | 8% |
| Не | 2204 | 81% |
| два разы | 305 | 11% |

Прагаласавала 2727 чалавек

**Ці патрэбная Беларусі атамная зброя?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 414 | 29% |
| Не | 374 | 27% |
| Не дай бог | 463 | 33% |
| бадлівай карове... | 155 | 11% |

Прагаласавала 1406 чалавек

**Самае чытанае за 19—25 сакавіка**

1 Сямён Слепакоў праспяваў пра сапраўдную Расію: гэтае відэа забаронена на расійскім тэлебачанні

2 Даведка нацыяналіста

3 Прадстаўнік РФ пры Радзе Еўропы: Аляска, Фінляндыя, Польшча вернуцца ў Расію!

4 Дзве версіі размовы Лукашэнкі з Пуціным пра «ўз'яднанне» Крыма

5 Расія абвясціла, чаго хоча ад Украіны: Крым, федэрацыю, мову

6 Лукашэнка жорстка раскрытыкаваў пасла Латушку: Хочуць не прадаваць, а карціны на сценах развешваць

7 Украіна пагражае ўвесці візавы рэжым з Расіяй і выйсці з СНД

8 Яшу — у дэпутаты. Папугай просіцца ў «палатку»

9 Лідзія Ярмошына: гісторыя ўзлёту бабруйскай юрысткі

10 Дзмітрый Кісялёў прыгразіў ЗША ядзернай вайной ВІДЭА

# адмяніць, як і «Дажынкі»

школьную сталоўку. Вялікія сталы з лавамі прыбраны светлымі абрусамі. Гатовая і сцэна для канцэртнай праграмы. На ёй прымацаваны вялікія, выразаныя з белай паперы літары — «Весеннее настроение». Прадавачкі раскладаюць піражкі.

**9:26,** Дом культуры «БелАЗ». Сталінскі цагляны будынак. Шырокія лесвіцы з драўлянымі парэнчамі. Бляклае жоўтае святло ламп са старых плафонаў аднастайна залівае калідор. Лейтэнант міліцыі, які ахоўвае ўчастак, дзеліцца са мной сваім смуткам: «Зусім дрэннае святло, пасядзіш тут некалькі гадзін — і можна ашалець». Трохі такі напускны жаль, канечне. Гэты лейтэнант лепш за мяне ведае, што дзяжурыць на выбарах нашмат прыемней, чым пісаць пратаколы ў пастарунку.

**10:46.** Смалявічы. На пероне чыгуначнага прыпынка прагульваецца нарад спецназа ў «парадных» строях — пад камуфляжам у іх белыя кашулі.

**10:59.** Каля будынка мясцовага аддзела адукацыі пачынае граць аркестр з мясцовага Дома культуры. Дзясятак мужчын у штодзённай вопратцы шэра-чорнай колеравай гамы парушаюць нядзельны рытм Смалявічаў. Адзінкавыя выбаршчыкі ўваходзяць галасаваць. На ўчастку ў суправаджэнні вусатага мужчыны, які ўсім сваім выглядам паказвае, хто тут начальнік, з'яўляецца здымачная група СТВ. Журналісты, зняўшы аркестр, ідуць у буфет. Карэспандэнт пытаецца ў дзяўчынкі: «А дзе твая мама? Пакліч сюды». Пад наглядам старшыні камісіі здымаецца сцэнка, як выбарцы купляюць напоі і прысмакі.

**11:43.** Жоўты мікрааўтобус з аркестрам едзе граць на выбарчы ўчастак смалявіцкай райбальніцы. З першымі гукамі іх бадзёрай музыкі з вокнаў палат высоўваюцца цікаўныя хворыя. Павыступаўшы паўгадзіны, аркестр грузіцца ў жоўтую «Газель» і едзе на наступны ўчастак. На цэнтральнай плошчы Смалявіч з рэпрадуктараў гучыць першы канал беларускага радыё. Голас Лідзіі Ярмошынай тлумачыць, што трэба рабіць тым, хто галасуе на выбарах упершыню. Праз дарогу, насупраць помніка Леніну, расцяжка: «Віншуем са святам».



Сяргей Гудзілін

### Апазіцыя ў сельсаветах

Лічаныя незалежныя кандыдаты прабіліся ў мясцовыя саветы. Прычым выключна ў сельсаветы, дзе ўсе ўсіх ведаюць і галасы немагчыма было падтасаваць. У Бярозаўскім раёне перамог хрысціянскі дэмакрат Валер Білібука. У Шумілінскім раёне — сябар Руху за Свабоду Аляксандр Шчамлёў. А на Аршаншчыне ў сельсаветы абраліся Анатоль Гоцман, Юрый Курганаў і Жанна Франкова, усе са «Справядлівага свету».



Сяргей Гудзілін

### «Прыбіраем часопісы. Нас будуць здымаць»

**14:11.** Мінск. Выбарчы ўчастак у Мінскай абласной бібліятэцы імя Пушкіна. Непадалёк ЦУМ. На вуліцы размясціўся буфет і летнія кавярні з вялікімі чырвонымі парасонамі. Калоны з шэрага бетону абкручаны штучнымі кветкамі. Іду да сакратаркі.

«Так, дзевачкі, прыбіраем часопісы. Нас будуць здымаць», — кажа яна да шэрагу маладых жанчын за сталамі, супрацоўніц бібліятэкі, якія ў гэты дзень па сумяшчальніцтве яшчэ і чальцы выбарчай камісіі. Бібліятэкаркі арганізавана прыбіраюць чытво далей ад маіх вачэй.

На вуліцы ў летнім кафэ заняты адзін столік. Кампанія за ім ужо нападпітку. Некалькі сталоў пустыя, і бачна, што ад самага пачатку дня за іх нават не сядалі — крэслы да іх нахілены спінкамі. З калонак вырываецца фанаграма. Сем жанчын у нацыянальных строях, апранутых паўзверх сучасных куртак, зацягваюць песню пра «мілы край — Беларусь». Нецвярозы мужчына ідзе бліжэй да хору, каб патанчыць. На пляцоўцы ён адзін. Побач з'яўляецца «інспектар культурнай праграмы» — мужчына ў касцюме і чорным паліто. Удзячна, як толькі можа дзякаваць чыноўнік падначаленаму, ківае спявачкам галавой і спрабуе злавіць іх позірк на сабе. Але яны занятыя спевамі і ківаюць не мужчыну-кантралёру, а ў такт фанаграмы...

### Давыбралі палату

Апошняй дэпутаткай у Палаце прадстаўнікоў стала гомельская доктарка Алена Астапюк. Пазалетась выбары на Навабеліцкай акрузе не адбыліся. Уладны кандыдат, памочнік прэзідэнта Ігар Пракапенка, быў звольнены з пасады, яму пагражала крымінальная справа.

**19:40.** Рабочыя разбіраюць буфет і загружаюць рыштунак у грузавік. Выбарчы ўчастак працуе, але ўсім вакол зразумела, што яшчэ адзін напружаны дзень ўсе вытрымалі годна. Яго вытрымалі сябры выбарчых камісій, вакальна-інструментальныя групы на ўчастках, буфетчыцы і выбарцы. Вытрымалі нават тыя, хто сёння не галасаваў.

Гэта ідэальныя выбары, іх механізм адточаны філігранна. Планка іх уплыву ўзнята настолькі высока, што іх як інструмент грамадска-палітычнага жыцця можна проста адмяняць. Гэтак жа проста, як можна адмяніць «Дажынкі».

**Сяргей Гудзілін, 23 сакавіка, Жодзіна — Смалявічы — Мінск**

# Факт: у дзень выбараў на ўчастак прыйшло 14% выбарцаў

Стратэгій ціску на назіральнікаў за выбарамі — процьма. На выбарчым участку №25 у Лінгвістычным універсітэце вырашылі даверыць справу тэхніцы. Перад назіральнікамі паставілі ўключаную камеру на штатыве, якая здымала іх.

«Камера працавала цэлы дзень. Села батарэя — яе падзарадзілі і зноў уключылі камеру. Нам патлумачылі: вы назіраеце за намі, і мы назіраем за вамі», — расказвае Глеб Мартынаў, актывіст кампаніі «Назіранне за выбарамі: тэорыя і практыка».

Але нягледзячы на шантаж, сумленныя назіральнікі сваю справу зрабілі. Яны старанна палічылі, колькі дакладна людзей прыйшло галасаваць.

Паводле іх словаў, у дзень галасавання ніякіх прыпісак не было. У пратакол запісалі 258 чалавек (14% выбарцаў), колькі і прыйшло на ўчастак.

Затое ў датэрміновым галасаванні нібыта бралі ўдзел ажно 755 чалавек — 41% выбарцаў.

**Кірыла Хілько**



## У трох акругах людзі прагаласавалі «супраць»: Целяханы, Давыд-Гарадок, Ляхавічы

Знайшлося тры безальтэрнатыўныя акругі, дзе больш за 50% людзей прагаласавала «супраць» кандыдатаў. Зрэшты, дзівіць не гэта, а той факт, што выбарчыя камісіі тое прызналі.

Усе тры выпадкі адбыліся на захадзе краіны, у Брэсцкай вобласці.

У Целяханах і Давыд-Гарадку людзі правалілі старшынь пасялковых саветаў.

А ў Канькоўскім сельсавеце Ляхавіцкага раёна не пераабралі былога кіраўніка сельгаспрадпрыемства, расказаў «Нашай Ніве» старшыня Цэнтрвыбаркама Мікалай Лазавік.

**Сяргей Макарэвіч**

Беларускі блогер падарожнічае па Усходняй Украіне.

# «Мой сусед па гасцініцы аказаўся дыверсантам»

Журналіст газеты «Новы час» і блогер Дзмітры Галко (Будзімір) ужо некалькі тыдняў знаходзіцца ва Украіне. «Наша Ніва» распытала яго пра ўбачанае падчас паездкі.

**«НН»: Раскажыце падрабязней пра свой маршрут.**

**Дзмітры Галко:** Я сам не чакаў, што настолькі затрымаюся на Украіне. Я рушыў з Мінска ў Данецк, але 8 сакавіка выйшаў з цягніка ў Харкаве, бо з'явілася паведамленне, што ў горадзе невядомыя расстралялі мітынг антыфашыстаў. Гэтая навіна аказалася абсалютнай дэзай: у Харкаве нічога крымінальнага не адбывалася. Сустрэў толькі трох чалавек з георгіеўскімі стужкамі.

Пасля я накіраваўся ў Данецк, дзе мяне 10 сакавіка затрымала Служба бяспекі Украіны. Рэч у тым, што мяне прынялі за расійскага агента ГРУ і дыверсанта. Але сапраўдным дыверсантам быў мой сусед па пакоі ў гатэлі. Ён быў з Расіі, і ў яго знайшлі выбухоўку. Сапраўды, ён дзіўнавата сябе паводзіў. Мяне неўзабаве адпусцілі, і я рушыў у Днепрадзяржынск, затым у Адэсу, а затым у Херсон.

**«НН»: Якая сітуацыя ў гэтых рэгіёнах?**

**ДГ:** У Данецку я, напрыклад, заўважыў моцны мясцовы патрыятызм. Адзін мужчына сказаў мне: «Я не ўкраінец і не рускі, я данбасёр. Я хачу сябраваць з усімі, бо мы з аднаго г...на злепленыя». Я лічу, што «разгойдванне» абстаноўкі ў Данецку ёсць спланаванай акцыяй, бо сепаратызму я там неназіраў, хутчэй, жаданне пашырыць аўтаномію.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

У Днепрапятроўску ўсё спакойна, там няма нават «антымайдану», бо новы губернатар, мільярдэр Каламойскі, жорстка ўзяў сітуацыю ў свае рукі. У Адэсе трымаецца моцны «антымайдан», прычым калі на данецкія пратэсты прыходзяць звычайныя рабочыя, то ў Адэсе людзі рознага кшталту. Адэса — гэткі кацёл, дзе ўсё змяшалася і варыцца.

Херсон — горад абсалютна адрозны ад усіх вышэйпералічаных. Варта толькі адзначыць, што там знеслі помнік Леніну, а на пастаменце напісалі «Нябесная Сотня» ў гонар загінулых у Кіеве майданаўцаў. Горад амаль цалкам расійскамоўны, але я сустрэў праваслаўнага святара, які прынцыпова перайшоў на ўкраінскую, каб расійскія войскі не прыйшлі яго «абараняць».

**«НН»: Вы былі ва Украіне, калі Расія прыняла Крым у свой склад. Як рэагавалі ўкраінцы?**

**ДГ:** Шчыра скажу, не чуў лямантуз з гэтай нагоды. Не ведаю пра Заходнюю Украіну, але, здаецца, на Усходзе ніхто так і не пачаў успрымаць Крым як частку Украіны. Аднак быў вялікі страх вайны, увараванне. Людзі думалі, што Крымам Расія не абмяжуецца і ўвядзе войскі на мацерыковую частку Украіны.

**«НН»: Што адбываецца на мяжы з Крымам?**

**ДГ:** У Чангары, дзе цяпер мяжа з Крымам, становішча насамрэч ваеннае. Там стаяць блокпасты і ўкраінскага войска, і так званых «сіл самаабароны». Але транспарт ходзіць, людзі едуць у Крым, хоць там можа быць небяспечна. Фільтрацыя на блокпастах жорсткая, бо ўкраінцы баяцца, што з тэрыторыі Крыма будуць пранікаць расійскія дыверсанты.

Я распытаўся таксама чалавека, які нядаўна вярнуўся з Крыма. Ён кажа, што мясцовыя жыхары пачалі чухаць патыліцу і задумваца: «А што ж мы нарабілі?»

**«НН»: Што стала з прарасійскімі настроямі пасля анексіі Крыма?**

**ДГ:** Яны маргіналізаваліся. Бо цяпер падтрымліваць Расію — значыць запрашаць узброеных людзей да сябе дахаты.

**«НН»: Як ставяцца ўкраінцы да новай улады?**

**ДГ:** Часу прайшло яшчэ мала, сімпатыі і антыпатыі не праявіліся. Улада ў Кіеве ўспрымаецца як часовая. Усе думаюць над тым, хто стане прэзідэнтам. А ў Данецку дык увогуле найбольшы клопат пра мясцовую ўладу, а не дзяржаўную.

**Гутарыў Кірыла Хілько**

## Украіна адклікала пасла з Беларусі пасля заяваў Лукашэнкі

Міністэрства замежных спраў Украіны адклікала амбасадара Украіны ў Беларусі Міхаіла Ежаля для кансультацый. Па словах дырэктара дэпартамента інфармацыйнай палітыкі МЗС Украіны Яўгена Перабійніса, гэта адбылося з-за выказвання Аляксандра Лукашэнкі наконт Крыма.

Кіраўнік Беларусі заявіў, што Крым — дэ-факта частка Расіі. Пры гэтым ён дадаў, што далейшая федэралізацыя Украіны недапушчальная. Лукашэнка паабяцаў: Беларусь будзе выбудоўваць адносіны з новай украінскай уладай пасля выбараў прэзідэнта краіны 25 мая.

Міністэрства замежных спраў Беларусі не стала рабіць ніякіх крокаў у адказ на адкліканне ўкраінскага пасла. Беларускія дыпламаты застаюцца ў Кіеве.

**ЯМ**

# Сашко Белы загінуў пры затрыманні

Адыёзны лідар «Правага сектара» з Роўна адстрэльваўся ад міліцыянтаў.

У ноч з 24 на 25 сакавіка пад Роўнам быў забіты каардынатар радыкальнага «Правага сектара» па Заходняй Украіне Аляксандр Музычка, больш вядомы як Сашко Белы.

Украінскі нацыяналіст нарадзіўся ў Пермскай вобласці (Расія), а службу ў войску праходзіў у Тбілісі. Пасля распаду СССР Музычка стаў грамадзянінам Украіны і ўступіў у радыкальную арганізацыю УНА-УНСА.

Разам з некалькімі паплечнікамі-добраахвотнікамі ён браў удзел у расійска-чачэнскай вайне, быў ахоўнікам Джахара Дудаева. Тады і ўзнікла мянушка «Сашко Белы». Баец нават атрымаў чачэнскі ордэн «Герой нацыі», казалі, што ён завёў у засаду атрад расійскіх марскіх пехацінцаў, а таксама падбіў з дзясятак БТРаў і танкаў.




Пасля вяртання ва Украіны ён займаўся дробным бізнэсам, некалькі разоў быў асуджаны за збіццё і рэкет. Пра Сашко Белага паспелі забыцца, але ён зноў выйшаў на авансцэну падчас Майдану. Радыкал стаў каардынатарам «Правага сектара» на Заходняй Украіне, прыходзіў з аўтаматам на мітынгі і пасяджэнні Ровенскай абласной рады.

Адносіны з новымі ўладамі канчаткова сапсаваліся, калі Сашка Белы перад камерамі збіў ровенскага пракурора — вінавацію яго ў бяздзеянні пры расследаванні забойства жанчыны. Была заведзеная крымінальная справа, але радыкал папярэдзіў, што жывым не здасца і паабяцаў «павесіць як сабаку» новага міністра ўнутраных спраў Украіны Арсена Авакава.

Калі сілавікі з упраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю прыехалі яго затрымліваць, Белы стаў адстрэльвацца і быў забіты.

**Ягор Марціновіч**

# Чаму патрыярх Кірыл не прысутнічаў на цырымоніі з нагоды далучэння Крыма

На цырымоніі афіцыйнага звароту прэзідэнта Расіі з нагоды далучэння Крыма прысутнічалі кіраўнікі ўсіх буйных канфесій Расіі. Не было толькі патрыярха Кірыла. У чым прычына такога ўчынку?

Даследчыца праваслаўя Наталля Васілевіч звяртае ўвагу на два аспекты. Ва Украіне існуюць дзве праваслаўныя царквы: Маскоўскага і Кіеўскага патрыярхата. Першая больш распаўсюджаная за другую (13 тысяч прыходаў супраць 4,7 тысяч). УПЦ Маскоўскага патрыярхата афіцыйна падпарадкоўваецца Маскве. Але яе фактычны статус непараўнальны з Беларускай праваслаўнай царквой. Яна мае вельмі шырокую аўтаномію і сама выбірае сваіх кіраўнікоў. Васілевіч звяртае ўвагу на скандалізаваную пазіцыю ўкраінскіх епіскапаў.

УПЦ Маскоўскага патрыярхата вельмі багатая. Наталля Васілевіч нагадвае, што ў савецкія часы ва Украіне знаходзілася 2/3 прыходаў СССР. Смяяліся, што гэта рускай царкве трэба было змагацца за аўтакефалію. Існуюць прагнозы, што ў выніку далейшага супрацьстаяння пад кантролем Маскоўскага патрыярхата застанецца толькі 10–15% прыходаў. Астатнія могуць адысці да УПЦ Кіеўскага патрыярхата. Іншы варыянт — можа адбыцца аб'яднанне абедзвюх украінскіх цэркваў. Зразумела, шмат што залежыць ад пазіцыі ўплывовых іерархаў (напрыклад, Канстанцінопальскага патрыярха). Але ў любым выпадку, на сусветнай арэне можа з'явіцца новая значная сіла, з якой нельга не лічыцца.

Патрыярх Кірыл не вельмі радуецца такой перспектыве. Ён бачыць рызыку ў тым, што РПЦ можа страціць гэтую частку праваслаўнай царквы. Наталля Васілевіч расцэньвае ўчынак Кірыла як тактычны ход. Патрыярху застаецца рабіць выгляд, што ён па-за палітыкай. Але Кірыл недаацэньвае рэальныя патрыятызму епіскапаў і святароў. Для яго далучэнне Крыма будзе паразай. Далучыўшы Крым, можна страціць царкву.

**Мікіта Капкоў**

# Каго з сяброў Пуціна пакараў Захад?

Расійскія мільярдэры разбагацелі **па карупцыйных схемах.**

ЗША адказалі на акупацыю Крыма расійскімі войскамі сімвалічнымі санкцыямі супраць уплывовых расійскіх чыноўнікаў. Напрыклад, ім будзе забаронена атрымліваць візы і набываць нерухомасць. Да абмежаванняў далучыўся і Еўрасаюз. У чорны спіс трапілі 16 урадоўцаў — ад кіраўніка адміністрацыі Сяргея Іванова да спікера Дзярждымы Сяргея Нарышкіна. Апроч іх пад санкцыі трапілі чацвёра бізнэсменаў, як сказалі б у Беларусі, — «кашалькі рэжыму». Хто яны, гэтыя блізкія да Пуціна мільянеры?


Аркадзь Ратэнберг (злева) трэніраваў Уладзіміра Пуціна.


Юрый Кавальчук.

### Будаўнікі-дзюдаісты

**Аркадзь і Барыс Ратэнбергі**
**Багацце:** $4,8 мільярда
На чым разбагацелі: будаўніцтва для «Газпрома» праз кампаніі, набытыя ў Газпрома»
**Цытата:** «Так, мы займаліся з Пуціным у адной секцыі, але ў першым наборы нас было чалавек 20. Але не ўсе ж яны пасляховыя!» (Аркадзь Ратэнберг)

Братам Ратэнбергам надзвычай пашанцавала са спартыўнай секцыяй, куды яны запісаліся ў дзяцінстве. Старэйшы, Аркадзь, займаўся самба, а пасля і дзюдо ў адной групе з Пуціным. Пасля туды ж хадзіў і Барыс. Урэшце абодва браты звязалі жыццё з барацьбой і пасля заканчэння кар'еры сталі трэнерамі.

Пасля развалу СССР Ратэнбергі займаліся разнастайным бізнэсам накшталт стварэння ахоўнага прадпрыемства (працаўнікі кажуць іначай — «крышавалі» палаткі на рынках), аднак вялікага багацця не займелі. Старэйшы асеў у Пецярбургу (дзе не парываў сяброўства з Пуціным), малодшы — у Хельсінкі.

Калі ж у 1998-м Пуцін узначаліў ФСБ, а праз год стаў прэзідэнтам Расіі, угару рэзка пайшлі і справы Ратэнбергаў.

У тыя гады браты сталі суўласнікамі банка, а пасля пачалі супрацоўніцтва з «Газпромам» — пастаўлялі прамысловаму гіганту трубы. А кампанія «Газтагед», часткай акцый якой валодаў Барыс, яшчэ і займалася перапродажам газу. Гэта былі мільённыя прыбыткі, але без размаху.

Выхад на новы ўзровень адбыўся ў 2007—2008. Схема таго, як стаць мільярдэрамі, аказалася нескладанай. Аркадзь Ратэнберг набыў за $400 мільёнаў (фактычна па стартавай цане) пяць будаўнічых кампаній, якія раптоўна вырашаў прадаць яму «Газпром». Утвораная Ратэнбергамі кампанія «Стройгазмантаж» адразу пачынае перамагаць на тэндарах і атрымліваць будаўнічыя замовы таго самага «Газпрома».

Па падліках часопіса «Форбс», за апошнія пяць гадоў кампаніі, звязаныя з Аркадзем, атрымалі дзяржаўных замоваў больш чым на $30 мільярдаў!


Барыс Ратэнберг мае фінскае грамадзянства. Ці сыдзе ён ад санкцый?

### Гунвор

**Генадзь Цімчанка**
**Багацце:** $14,1 мільярда
На чым разбагацеў: перапродаж нафтапрадуктаў, будаўніцтва для «Газпрома».
**Цытата:** «Я ў нафтавым бізнэсе з 1987 года. Вы думаеце, я за гэтыя 25 гадоў не мог грошай зарабіць?»

Шлях Генадзя Цімчанкі да зarobленых мільярдаў быў паступовым — ён насамрэч займаецца нафтапрадуктамі яшчэ з канца 1980-х. Аднак найбольшы скачок адбыўся ў канцы 2000-х, калі расійскім нафтавым кампаніям нібыта было рэкамендавана працаваць з ягонай кампаніяй «Гунвор». Як вынік, абарот кампаніі дасягае $100 мільярдаў за год. Дарэчы, днямі міністэрства фінансаў ЗША выступіла з заявай, у якой намякае, што Уладзімір Пуцін «мае доступ да сродкаў «Гунвора».

Чакаючы санкцый з боку ЗША, Цімчанка прадаў сваю долю ў кампаніі шведскаму партнёру Тарб'ёрну Торнквісту. Але ўсё адно не прадухіліў сваё трапленне ў «чорны спіс». Як будуць працаваць санкцыі — загадка, бо, як і Барыс Ратэнберг, Цімчанка мае фінскае грамадзянства. А вось падаткі ягоная кампанія сплачвае ў Швейцарыі.

Мільярдэр валодае кампаніяй «Стройтрансгаз», якая нібыта канкуруе з Ратэнбергамі, але фактычна дзеліць будаўнічыя замовы «Газпрома».

Цімчанка абвяргае службу ў КДБ у маладосці. Ён кажа, што пазнаёміўся з Пуціным у пачатку 1990-х, калі той працаваў у пецярбургскай мэрыі. Прыяцельскія адносіны ўмацаваліся пасля стварэння клуба дзюдо «Явара-Нява», спонсарам якога стаў Цімчанка.


Генадзь Цімчанка.

### Галоўны медыямагнат Расіі

**Юрый Кавальчук**
**Багацце:** $1,1 мільярда
**На чым разбагацеў:** банкаўскія паслугі, медыябізнэс

Яшчэ адзін блізкі да расійскай улады бізнэсмен, банкір Юрый Кавальчук, належыць да пазнейшых сяброў прэзідэнта Расіі. Разам з самім Пуціным, кіраўніком Расійскай чыгункі Уладзімірам Якуніным (на яго таксама накладзеныя санкцыі) і некаторымі іншымі будучымі палітыкамі, Кавальчук у 1996-м заснаваў дачны кааператыў «Возера» пад Пецярбургам.

Сын гісторыка, да развалу СССР ён рабіў навуковую кар'еру. У вялікі бізнэс ён прыйшоў у пачатку 1990-х, калі ўзначаліў банк «Расія».

У тыя ж гады «Газпром» распрадаваў свае няпрофільныя активы. Напрыклад, страхавую кампанію «Сагаз» аддавалі за $60 мільёнаў. Па сведчаннях урадоўцаў, якія арганізоўвалі продаж, Пуцін асабіста настойваў, каб кампанію аддалі Кавальчуку. За наступныя два з паловай года чыстыя прыбыткі «Сагаза» склаў $300 мільёнаў!

А неўзабаве пры ўдзеле Кавальчука была створаная «Нацыянальная Медыя Група». Яна валодае тэлеканалам «РэнТВ», газетай «Ізвестія», парталам жоўтых навін «Лайфньюз» і іншымі рэсурсамі, якія забяспечваюць інфармацыйную падтрымку рэжыму Пуціна. Ёсць і 25% акцый Першага канала.

У знак падтрымкі Кавальчука сам Пуцін пасля накладання санкцый на банк «Расія» дэманстратыўна адкрыў у ім рахунак і перавёў туды свой заробак.

**Ягор Марціновіч**




## Украінкі аб'явілі сэкс-байкот: «Не дай расейцу»

Па слядах абвешчанай нядаўна ў фэйсбуку акцыі байкоту расійскім таварам пайшлі стваральнікі старонкі «Не дай расейцу», якая заклікае жанчын да сэкс-эмбарга ў адносінах да усходніх суседзяў.

Ініцыятыва мае афіцыйны лагатып: дзве складзеныя далоні. На афіцыйных кашульках кампаніі, акрамя гэтага лагатыпа і надпіса, знаходзіцца яшчэ радок з паэмы Тараса Шаўчэнкі з 1838 года «Кацярына»: «Кохайтеся, чорнобриві, та не з москалями».

Кампанія выклікае неадназначныя рэакцыі і часцяком служыць прычынай для грубых сэксісцкіх жартаў, але ідэя сэкс-байкоту ў сувязі з анексіяй Крыма імгненна пашыраецца ў сацыяльных сетках.

Ідэя сэкс-байкоту ў гісторыі літаратуры вядомая амаль ужо 2,5 тысячы гадоў. Сюжэт вядомай камедыі «Лісістрата» камедыёграфа Арыстафана з V стагоддзя да нашай эры пабудаваная якраз вакол такога сэкс-эмбарга, якое грачанкі аб'явілі сваім мужам-ваярам, каб закончыць крывавую міжусобіцу — Пелапанескую вайну.

**Радыё «Свабода»**

# Палова студэнтаў-бюджэтнікаў будзе адпрацоўваць 5 гадоў?

Уносяцца змены ў **правілы паступлення** ў ВНУ.

За два месяцы да пачатку ўступнай кампаніі Міністэрства адукацыі ў чарговы раз змяніла правілы паступлення. Галоўнае новаўвядзенне — ухіл у бок мэтавага набору на навучанне. Яно існавала і раней, але выкарыстоўвалася не так часта. Установа, якая зацікаўленая ў работніку, выдавала яму мэтавае накіраванне на пэўную спецыяльнасць і часткова аплачвала навучанне.

Цяпер па мэтавым наборы будуць паступаць да 60% абітурыентаў па сельскагаспадарчых спецыяльнасцях і да 40% — па ўсіх іншых. Пасля такога навучання выпускніку давядзецца адпрацоўваць не два гады, як звычайна, а ажно пяць гадоў.

Сярод іншых зменаў — адмена асобнага конкурсу для вясковых і гарадскіх школьнікаў. Не будзе і прафесійна-псіхалагічнага сумоўя. Яно існавала некалькі гадоў і мела на мэце праводзіць папярэдні адбор на спецыяльнасці, звязаныя з дзяржаўным кіраваннем, правам і журналістыкай. Аднак сумоўе ад пачатку стала прафанацыяй — яго праходзілі амаль усе абітурыенты, толькі часцяком адсейваліся маладыя палітычныя актывісты.

Паколькі апошнія гады на многіх спецыяльнасцях заставаліся свабодныя бюджэтныя месцы, будзе ўведзены дадатковы набор, каб закрыць вакансіі.

Тыя, хто мае прыярытэтнае права залічэння ў ВНУ (інваліды, сіроты і іншыя), змогуць без чаргі паступаць толькі на тыя спецыяльнасці, на якія летась быў нізкі конкурс — менш за 5 чалавек на месца.

А вось мінімальныя прахадныя балы, не набраўшы якіх нельга паступаць у ВНУ, засталіся. Віцэ-прэм'ер Анатоль Тозік адстаяў гэтыя палажэнні насуперак прапановам вайскоўцаў і міліцыянтаў, якія разлічвалі апусціць парогавы бал, каб кампенсаваць свае «недаборы».

**Ягор Марціновіч**

**Ці можна «адкасіць» ад мэтавага размеркавання?**

Выпускнікі, якія адмаўляюцца пачынаць працу па месцы размеркавання, павінны вярнуць дзяржаве грошы, затрачаныя на іх навучанне. Як адмовіцца ад прымусовай «мэтавай» працы, але не давесці сітуацыю да штрафу?

Кодэкс аб адукацыі вызваляе ад кампенсацыі інвалідаў I і II групы, а таксама тых, хто мае медыцынскія супрацьпаказанні да працы.

Аднак разарваць працоўную дамову без выплаты штрафу можна і пры іншых умовах, напрыклад, пры парушэнні працоўнага заканадаўства. На інтэрнэт-форумах можна знайсці мноства гісторый тых, хто, папрацаваўшы месяц-другі, прасіўся ў кароткі адпачынак. Працадаўцы адпускалі іх, але бухгалтэрыя звычайна забывалася налічыць у тэрмін сімвалічныя адпускныя за прапушчаныя два-тры дні. Паводле заканадаўства, гэтага дастаткова, каб падаць у суд (бясплатна) і запатрабаваць разарваць дамову. У такім выпадку выпускніка чакае пераразмеркаванне альбо свабодны дыплом.

# «Дажынкі» пераносяцца ў Мілан

На сусветнай выставе «Экспа-2015» пакажам **не інавацыі, а саламяныя качулкі**.

Сусветная выстава распачнецца 1 мая 2015 у Італіі, пад Міланам. Тут, на плошчы ў 1,7 мільёна м² разгорнуцца экспазіцыі розных краін на тэму «Накарміць планету. Энергія для жыцця».

Каб спраектаваць павільён, Беларусь арганізавала нацыянальны архітэктурны конкурс. Праект пераможцаў (Ігара Казюлькова, Дзмітрыя Беляковіча і Аляксандра Шышлава) называецца «Кола жыцця». На яго будаўніцтва, абслугоўванне і дэмантаж выдаткуюць 6 мільёнаў еўра.

Ідэя «Кола жыцця» — у дэманстрацыі трох асноўных багаццяў Беларусі: хлеба, солі і вады. У цэнтры экспазіцыі будзе 13-метровае драўлянае кола млына, якое «сімвалізуе рух і чалавечую думку». Побач з ім — саламяныя качулкі, якія будуць сімвалізаваць палі з толькі што прыбраным хлебам. Падчас семінараў і лекцый наведнікам раскажуць пра «беларускі досвед устойлівага развіцця сельскай гаспадаркі, вытворчасці карысных і высакаякасных прадуктаў харчавання», гэта значыць пра калгасы і аграгарадкі, а таксама... пра барацьбу з лішняй вагой. Сцэны і столь пляцоўкі будуць дэкараваныя соллю.

Будзе кавярня з нацыянальнымі стравамі, сувенірная крама (лён, салома і дрэва), пляцоўка для выступу народных калектываў. Яны пакажуць традыцыйныя святы (Масленіцу, Вялікдзень, Купалле, Дажынкі). Прэзентацыя народных песняў і танцаў пазіцыянуецца як «візітная картка беларускага павільёна».

**Мікіта Капкоў**





**Спявалі, скакалі, вясну гукалі**

КІРЫЛА ХІЛЬКО

На **свята ў Вязынцы** сабралася каля 800 чалавек.

22 сакавіка на радзіме Янкі Купалы, у вёсцы Вязынка, адбылося традыцыйнае Гуканне вясны. Свята зладзіла Студэнцкае этнаграфічнае таварыства (СЭТ) разам з музеем Янкі Купалы.

Цёплае надвор'е прыцягнула сотні людзей: многія прыязджалі сем'ямі. Той суботай у Вязынцы можна было назіраць надзвычайную колькасць беларускіх народных строяў. Хтосьці быў апрануты ў нацыянальнае ад ботаў да капелюша, хтосьці меў на сабе толькі вышыванку ці пояс. Аднак усе госці з задавальненнем вадзілі карагоды, танчылі, гуляліся, гушкаліся на арэлях і частаваліся прысмакамі.

Па розных ацэнках, у Гуканні вясны сёлета бралі ўдзел каля 800 чалавек. Відаць, улады таксама не чакалі такога наплыву людзей, бо самотнага міліцыянта, які ахоўваў тэрыторыю музея, тэрмінова замянілі на двух спецназаўцаў.

«Ужо чацвёрты год Студэнцкае этнаграфічнае таварыства ладзіць Гуканне вясны ў Вязынцы. А наогул свята ладзіцца намі з 2003 года. У народным календары для Гукання вясны няма вызначанай даты, — кажа старшыня СЭТ Аляксей Глушко. — Вясну «гукаюць» ад Масленіцы і першых веснавых дзён да Ушэсця, пачатку лета. Аднак найбольш значнай датай у гэты час з'яўляецца дзень веснавога раўнадзенства, што прыпадае на 20 або 21 сакавіка. Гэты дзень — пачатак астранамічнай вясны, з якім у народным календары звязаныя святы Саракі і Звеставанне, прылёт птушак з выраю і пачатак земляробчых работ».

«Мы абралі фармат міні-фестывалю, які захоўвае асноўныя рысы традыцыйнага свята — адсутнасць па-дзелу на «артыстаў» і «гледачоў», самаарганізацыю ўдзельнікаў, супольнае перажыванне абрадавага дзеяння і святочнай атмасферы. Вельмі прыемна, што ў такім выглядзе свята прываблівае ўсё больш удзельнікаў, сярод якіх пераважную большасць складае моладзь і сем'і з дзецьмі», — мяркуе Глушко.

**Кірыла Хілько**

# «Каля слупа ляжаў чалавек з разбітай галавой — труп...»

У Рэчыцы п'яны яздок **пратараніў людзей** на прыпынку.

«То забойства, то аварыя», — як пра нейкі праклён для горада кажуць жыхары Рэчыцы. Апошнім часам горад часта трапляе ў крымінальныя зводкі. І вось чарговы раз — п'яны кіроўца ўляцеў у аўтобусны прыпынак.

«19 сакавіка каля 23.00 кіроўца аўтамабіля «Крайслер-Пацыфіка» па вуліцы Савецкай няправільна выбраў хуткасць, не даў рады кіраванню, выехаў на правы ходнік, а пасля на прыпынак грамадскага транспарту. Пры гэтым кіроўца здзейсніў наезд на пяцярых чалавек, — паведаміла прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Гомельскай вобласці Марыя Крываногава. — Кіроўца аўтамабіля і двое яго пасажыраў, дзякуючы актыўнай грамадзянскай пазіцыі відавочцаў, былі затрыманыя і накіраваныя на медыцынскае абследаванне».

Будзень, серада, было ўжо позна. Але і ў гэты час вуліцы не былі пустымі. Арцём, напрыклад, ішоў з сябрамі на прыпынак, калі ўбачыў «Крайслер», які на вялікай хуткасці праехаў побач.

«Я ўбачыў, як машына зачапіла слуп, пасля ўрэзалася ў прыпынак, а затым яшчэ і ў шапік. Калі падбег, каля слупа ляжаў чалавек з разбітай галавой — труп... У машыне ўжо нікога не было. Кіроўца стаяў побач — я нават не зразумеў адразу, што ён кіроўца — ніякіх пашкоджанняў, на твары толькі пару драпін. Убачыў яшчэ пару хлопцаў, якія ляжалі. У аднаго напалову нага і рука знаходзіліся пад машынай. Мы яго выцягнулі, але ногі былі раструшчаныя — я ўзяўся, а там і нагі фактычна не было. Нават калі кіроўца быў п'яны, пасля такой аварыі адразу ж працверазеў. Ён стаяў і не ведаў, што рабіць. Ужо пасля, калі мы насілі людзей у «хуткую», я ўбачыў, што кіроўца з кімсьці біўся».

Арцём адзначае, што машына была на транзітных нумарах — толькі прыгналі і яшчэ не паспелі зарэгістраваць. Але разбілі яе моцна.

**Не стойце спінай!**

Тых секунд, за якія чалавек можа разглядзець небяспеку, не заўжды хапае, каб уратавацца. Што варта ведаць, каб звесці такую небяспеку да мінімуму?

«У аўтаспорце ёсць правіла для суддзяў і гледачоў — нельга стаяць спінай да трасы. У такім выпадку чалавек — закладнік сітуацыі, — адзначае майстар спорту па аўтамабільным спорце Сяргей Аўчыннікаў. — Пешаходы лічаць, што яны знаходзяцца ў бяспецы. Нават слуп даволі трывалы, як паказваюць аварыі на кальцавой, як і дрэвы — можна стаяць бліжэй да іх».



Шапік на прыпынку раструшчыла ўшчэнт.

### «Хацеў ажаніцца...»

У аварыі загінулі трое. 48-гадовы жыхар вёскі Жмураўка і гараджанін Арцём, які тыдзень не дажыў жа свайго 28-га дня нараджэння, сканалі на месцы. 26-гадоваму Раману раструшчыла твар, але ён яшчэ некалькі гадзін жыў у бальніцы.



Раман марыў пра сваю сям'ю.

«Мы знаёмыя тры гады. Сустракаліся... Гэты чалавек быў надзвычай добрым, ідэальным ва ўсіх адносінах. У яго было сапраўднае імкненне да жыцця. Дзеля мяне ён паехаў на Поўнач, для мяне збіраўся кватэру набываць. Хацеў ажаніцца, — плача сяброўка Рамана Ганна. — У той дзень я працавала. І ён прыехаў такі задаволены... Забраў мяне з працы, з'ездзілі ў кавярню. Калі падвёз дадому, яшчэ доўга размаўлялі. Разам з сябрамі збіраўся на більярд схадзіць увечары. Дзесьці за паўгадзіны да аварыі патэлефанаваў і сказаў, што ўжо разыходзіліся. Рома вырашыў на паўдарогі правесці сябра Арцёма — яны разам і загінулі».

Раман праз суткі збіраўся вярнуцца ў Расію. Працаваў памочнікам буравіка на нафтавай вышцы. Месяц там — месяц дома.

«На Поўнач ён уладкаваўся дзесьці ў маі-чэрвені. Моцна стамляўся і дадому прыязджаў адпачываць. Справа ў тым, што ён тэлефанаваў мне адтуль перад апошнім прыездам — хацеў застацца адразу на тры месяцы. Я сказала, каб сам вырашаў. Лепш бы застаўся, вярнуўся б жывым...»

Раман жыў у Рэчыцы разам з мамай і быў адзіным дзіцем у сям'і. Цяпер жанчына засталася адна ў пустой кватэры.

### Застаўся без рукі

Хлопцы, якія трапілі ў бальніцу, па-ранейшаму застаюцца там. Як расказала сястра 19-гадовага Міхаіла, брату ампутавалі левую руку. Ён знаходзіцца ў рэанімацыі. «Як паведаміў доктар, абаронная рэакцыя ў яго была такая, што брат першы дзень не ўсведамляў, што застаўся без рукі. Але пасля зразумеў. Цяпер размаўляе, задае нам пытанні, нават сам спрабуе нас суцяшаць».

Міхаіл — студэнт Жлобінскага аграрна-тэхнічнага каледжа. Прайшоў пераддыпломную практыку, яму застаецца толькі атрымаць дыплом. У той вечар ён сустракаўся з сябрам, 20-гадовым Дзмітрыем. І яны развіталіся, калі апынуліся на тым прыпынку. Дзмітрыя таксама шпіталізавалі. Цяпер ён ужо пераведзены з рэанімацыі. Яму прааперавалі ногі.

Крымінальную справу завялі за парушэнне ПДР, што пацягнула па неасцярожнасці смерць траіх чалавек. Максімальнае пакаранне па гэтым артыкуле — да сямі гадоў калоніі. Родныя пацярпелых наракаюць, што прыспеў час перагледзець пакаранне за падобныя злачынствы ў бок яго ўзмацнення. Між іншым, за забойства некалькіх чалавек прадугледжана ад 6 да 25 гадоў калоніі альбо нават расстрэл. Між іншым, кіроўца і яго пасажыры абвінавачваюцца ў пакіданні людзей у небяспецы.

**Сяргей Макарэвіч**

# Як маладыя мама і тата трапілі за краты

У Гомелі пачаўся суд па рэзанансным **забойстве рэпетытара.**

23-гадовая Марына Аляксандрава знікла 20 ліпеня 2013 года. А праз некалькі дзён яе знайшлі забітай. Па падазрэнні затрымалі сямейную пару і былога кавалера дзяўчыны. На судзе раскрыліся шакуючыя падрабязнасці.

У верасні 2012 Марына запісалася на секцыю каратэ. Там пазнаёмілася з Антонам. Акрамя супольнага захаплення ўсходнім адзінаборствам паміж імі ўзнікла і сімпатыя. Праўда, хутка закаханасць змянілася нянавісцю. Дзяўчына кінула хлопца. Антон настойваў пачаць усё спачатку. Нават аднойчы пабіў яе, каб адумалася. Дзяўчына ж звярнулася ў міліцыю — і дэбашыра адправілі на суткі.

Тады Антон і пачаў выношваць план помсты. А ў памагатыя ўзяў свайго прыяцеля з завода, 24-гадовага Паўла. Хлопец не адмовіўся. А калі пра ўсё расказаў жонцы, тая вырашыла таксама далучыцца. І гэта мама дваіх малалетніх дзяцей — 21-гадовая Кацярына. На судзе, праўда, яна віны не прызнала.

Яны сачылі за Марынай некалькі месяцаў. І спыніліся на тым, каб запрасіць яе ў якасці рэпетытара па англійскай мове да выдуманага сына. Дзяўчына пагадзілася пад'ехаць і ўсё абмеркаваць. А там у кожнага была свая роля. Кацярына сустракала Марыну, Павел пільнаваў каля лесвіцы на выпадак, калі дзяўчына кінецца на ўцёкі. А за дзвярыма ў кватэры чакаў Антон. Ён і накінуўся на сваю каханую з малатком...

Цела паклалі ў дыван і вывезлі ў лес. Месца выбралі загадзя, выкапалі яму. У дадатак з сумачкі дзяўчыны забралі грошы — 10 даляраў і 40 тысяч рублёў. Антона, дарэчы, першым і выклікалі следчыя. Не прызнаваўся адразу, але затым пра ўсё расказаў. Віну прызнаў і Павел.

Дарэчы, нядаўна вынеслі смяротны прысуд забойцу студэнткі ў Гомелі. Тады хлопец адпомсціў ёй за абразу 102 ударамі нажом. Па гэтай справе таксама прадугледжана самае суровае пакаранне.

**Кастусь Матушыч**




Кацярына, Павел, Антон.

### Вышук



**Заклікаў інвеставаць**

Чалавек на фота прапаноўваў укладаць грошы ў неіснуючыя інвестыцыйныя праекты, таксама пазычаў грошы і не вяртаў. Калі вы пацярпелі ад чалавека на фота, звяртайцеся ў Першамайскае РУУС Мінска на (017) 280-02-02.

### Сцісла

**Звярнулася да Лукашэнкі**

Былая дырэктарка кандытарскай фабрыкі «Слодыч» Тацяна Селіх, якую абвінавацілі ў праслухоўванні падначаленых, звярнулася да кіраўніка дзяржавы. Яна прасіла вызваліць яе ад крымінальнай адказнасці. Праўда, у Адміністрацыі прэзідэнта прашэнне не сталі разглядаць, бо ж Селіх не кампенсавала шкоду прадпрыемству — 202 мільёны рублёў.



**Журналіста знайшлі патанулым**

29-гадовы журналіст Аляксандр Ганісеўскі знік 28 снежня ў Мікашэвічах (Лунінецкі раён), куды прыехаў да бацькоў з Масквы. Яго цела знайшлі толькі праз тры месяцы ў штучным вадаёме за некалькі кіламетраў ад дома: чалавек падышоў да вады памыць рукі, а ўбачыў цела. Слядоў гвалтоўнай смерці не выявілі.

**Збіраў на новенькае аўто**

24-гадовы мінчук гандляваў спайсамі праз інтэрнэт. У яго на кватэры знайшлі гатовых наркотыкаў і асновы для іх на 4000 дозаў, коштам 400 мільёнаў рублёў. Малады наркадылер патлумачыў, што за атрыманыя ад продажу спайсаў грошы збіраўся купіць новенькае аўто з салона.

**КМ**

# Амерыканскія навукоўцы пацвердзілі тэорыю Вялікага выбуху



**Экстрэмальны холад і надзвычай статычнае сухое паветра Паўднёвага полюса ствараюць ідэальныя ўмовы для назірання і вывучэння касмічнага мікрахвалевага выпраменьвання.**

17 сакавіка ў Гарвард-Смітсанаўскім цэнтры астрафізікі прайшла прэс-канферэнцыя, падчас якой амерыканскія навукоўцы паведамілі пра грандыёзнае адкрыццё. Дзякуючы дадзеным, атрыманым у абсерваторыі BICEP2 на Паўднёвым полюсе, астрафізікі зафіксавалі так званыя рэліктавыя гравітацыйныя хвалі, спароджаныя Вялікім выбухам 13,8 мільярда гадоў таму.

Пры дапамозе спецыяльнага радыётэлескопа навукоўцы адсочвалі, як змянялася палярызацыя рэліктавага выпраменьвання, якое ўзнікла ў момант з'яўлення Сусвету. Як тлумачаць астрафізікі, гравітацыйныя хвалі аказваюць на палярызацыю непасрэдны ўплыў. Карта тэмператур рэліктавага выпраменьвання і карціна палярызацыі даказваюць тэорыю інфляцыі, згодна з якой Сусвет пачаўся з Вялікага выбуху і ў першыя секунды існавання экспанентна пашыраўся.

Гэтае адкрыццё вельмі важнае для сучаснай навукі. Яно дасць магчымасць вызначыць, як адбывалася пашырэнне Сусвету, і вылічыць магутнасць гэтага працэсу. Існаванне рэліктавых гравітацыйных хваляў было прадказана Альбертам Эйнштэйнам яшчэ 100 гадоў таму, аднак да гэтага часу гіпотэза не была пацверджаная эксперыментальна. Калі адкрыццё пацвердзіцца, навукоўцаў чакае Нобелеўская прэмія.

**Юлія Бальцэвіч**

## Зніжка на аборт

Акцябрская цэнтральная раённая бальніца прапануе новы від паслуг — медыкаментозны аборт. Да 1 красавіка на паслугу дзейнічае зніжка памерам 30%. Дзякуючы ёй аборт каштуе 856 тысяч рублёў.

«Маецца на ўвазе менавіта медыкаментозны аборт, — тлумачыць галоўны ўрач бальніцы Віктар Мулярчык. — Гэта новая паслуга, для яе патрэбны дарагія лекі, аднак для жанчыны такі аборт не будзе балючым, не патрэбная ні аперацыя, ні наркоз. А наконт зніжкі — мы вырашылі, што для жанчын гэта будзе прасцей, бо заробкі ў нас не вельмі высокія».

Ці карыстаецца попытам паслуга? «Болей абортаў, зразумела, не стала, засталася тая самая статыстыка: 1-2 аборты на месяц. Але цяпер можна абіраць метад, медыкаментозны аборт пераносіцца лягчэй», — расказвае доктар.

Здзіўляюць лічбы ў аб'яве, пры першаснай цане ў 931 550 рублёў зніжка складае не 30%, а толькі 9%. Па словах Мулярчыка, гэта пытанне да эканамічнага аддзела.

«Аборты ў нашай краіне дазволеныя, і мы лічым, што жанчына мае права на выбар. А зніжка... Заробкі ж у нас не дзесяць мільёнаў на месяц. Усё адно ніхто не кінецца рабіць аборт, прачытаўшы нашую аб'яву. Такое рашэнне залежыць не ад зніжак», — падсумоўвае ён.

**Юрась Ускоў**

## Партрэты паўстанцаў Каліноўскага: выйшаў фотаальбом

**У Беларусі ўпершыню з'явіўся фотаальбом, у якім прадстаўлена звыш 190 партрэтаў удзельнікаў паўстання 1863 года.**

Ён прымеркаваны да 150-годдзя паўстання Каліноўскага. Складальнікі кнігі — архівіст і тэкстолаг Язэп Янушкевіч, а таксама яго дачка Каміла, магістрантка Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.

Яны выдалі альбом ў родным Ракаве за ўласны кошт. Для пошуку фотаздымкаў складальнікі працавалі ў архівах і бібліятэках Беларусі, Літвы, Польшчы, а таксама прыватных зборах. Некаторыя фота класічныя — партрэты Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Валерыя Урублеўскага або Кастуся Каліноўскага.

Іншыя знаходкі (напрыклад, патрыятычны асяродак часопіса «Slowo» у Пецярбургу — здымак датаваны 1860 — пачаткам 1862 года) друкуюцца ўпершыню.




Аўтары плануюць працяг выдання. Паводле іх словаў, недаследаванымі застаюцца архівы Волагды і Іркуцка, Масквы і Санкт-Пецярбурга, Парыжа і Лондана — усюды, дзе жылі або знайшлі вечны спачын удзельнікі паўстання.

Кнігу можна знайсці ў «Акадэмкнізе», кнігарні «Логвінаў», у незалежных кнігароў.

**Мікіта Капкоў**



**Камертон Сяргея Ваганава**

## Дзіцячыя гульні

Час ад часу, калі выпадае вяртацца дадому ў сярэдзіне дня, сустракаю дзіўнаватага хлопчыка са школьным рукзаком за плячыма, гадоў васьмі-дзевяці.

Ніколі не бачыў, каб ён, як звычайныя дзеці, круціў галавой па баках, назіраючы зімовыя альбо веснавыя змены ў паводзінах варон і кавак, і ўвогуле ў навакольным жыцці. Не, наш хлопчык заўжды надзвычай засяроджаны на нейкай цаццы, гаджэце па-сучаснаму, і, не ўзнімаючы галавы, цісне і цісне на кнопкі. На вуліцы, у пад'ездзе, у ліфце — паўсюль. Страляніна... выбухі... надрыўны віск рухавікоў...

Трэба сказаць, што карэнных жыхароў нашага дома сёння можна пералічыць па пальцах. Спрэс «акупанты». Нехта ветліва вітаецца пры сустрэчы. Нехта, выходзячы з ліфта, нахабна пускае струмень цыгарэтнага дыму ў твар. А нехта ўвогуле нічога і нікога не заўважае наўкол. Адзін з гэтых апошніх «нехта» ніколі не пачакае цябе ў ліфце і заўсёды паркуе джып так, што побач месца не застаецца. Расійскія нумары і падзёртая георгіеўская стужачка на бакавым люстэрку... Відаць, бацька засяроджанага хлопчыка — круглатвары, каржакаваты, і хлопчык такі ж. Хаця разам іх ніколі не бачыў...

Заўчора мы з хлопчыкам апынуліся ў ліфце, і я спытаў у яго, на які націснуць паверх. І — о, цуд! — хлопчык падняў галаву: «А вы за каго: за рускіх ці за фашыстаў?» Я зазірнуў яму ў вочы. Нябесны колер патыхаў цьмянай рашучасцю... «Слухай, цябе не Мішкам клічуць?» Ён крутнуў галавой і зноў утаропіўся ў сваю цацку.

...Да Мішкі я хадзіў гуляць у алавяных салдацікаў. Але перад тым, як расказаць пра Мішку і тую гульню, трэба ўзгадаць Аліка. Бо менавіта Алік першы назваў мяне фашыстам. У яговых вуснах, праўда, гэта гучала з падвойнай нянавісцю: «У-у-у, жыд пархаты! Фашыст!»

Я і сёння, калі Алік, па звестках, жыве недзе ў Брукліне, не ведаю, чаму ён так да мяне чапляўся. Мо таму, што быў вышэйшы і дужэйшы за мяне, а я ніжэйшы і слабейшы. Аднойчы я не вытрымаў: скочыў яму на спіну, адной рукой учапіўся за чупрыну, а другой калаціў па вуху: «Гітлер! Гітлер!» Чупрына, дарэчы, насамрэч рабіла Аліка падобным да Гітлера, бо патлялася па лбе наўскось. Але я не ведаў тады, што менавіта Гітлер забіў у гета Алікаву бабулю і старэйшую сястру...

**«А вы за каго: за рускіх ці за фашыстаў?»** 

Мішка з'явіўся ў нашым класе недзе ў 1951-м і адразу ўзяўся абараняць мяне ад Аліка, бо быў яшчэ дужэйшы за яго, хаця і ніжэйшы. Ён увогуле быў вялікі інтэрнацыяналіст, мой сябар Мішка. Як толькі нас прынялі ў піянеры, пачаў збіраць ў В'етнам, — змагацца з французскімі каланізатарамі. І мяне падбухторыў. Назапасілі запалкі, соль, нейкія вяроўкі... Карацей, з-пад вагона выцягнуў нас стары чыгуначнік, што соўгаўся ўздоўж таварняка і лупіў нейкай жалезнай прыладай па колах...

Што і казаць, цікавае было жыццё! Але самым прывабным у сяброўстве з Мішкам была гульня ў алавяных салдацікаў. Ужо і не памятаю, якімі былі правілы той гульні, але дакладна памятаю, як алавянае войска падзялялася на «рускіх» і «фашыстаў». І была перадумова: маё войска заўжды фашысцкае. І, зразумела, заўжды цярпела паразу. «Бацька кажа, — тлумачыў Мішка, — што я заўжды павінен быць пераможцам. Ты ж не хочаш, каб пераможцамі былі фашысты?»

Як я зайздросціў Мішку з-за яговага бацькі, калі той вяртаўся з працы, сцягваў бліскучыя боты, потым здымаў кіцель з залачонымі пагонамі на тры зоркі і стосам ордэнскіх калодак, з асалодай адцягваў падцяжкі на цёмна-сініх галіфэ з чырвоным кантам і гучна ляпаў імі па жываце... «Ну, хто перамагае? Спадзяюся, ты?» — «Канечне, — чырванеў Мішка, — рускія заўсёды перамагаюць...»

Аднойчы на перапынку Мішка падышоў да мяне: «Ты больш не прыходзь. Я з табой больш не сябрую». — «Чаму?!» — «Бацька сказаў, што ты жыд. А жыды што тыя фашысты — хацелі забіць таварыша Сталіна».

Я паглядзеў яму ў вочы. Нябесны колер патыхаў цьмянай рашучасцю...

Удзень я вяртаўся дадому аўтобусам. Душыла крыўда. Якія ж мы з татам фашысты? Тата з фашыстамі ваяваў, хай сабе толькі «Чырвоная Зорка» і «За адвагу»... Ці ж мы хацелі забіць таварыша Сталіна? А мо ёсць нейкія іншыя, дрэнныя, жыды, тыя, што фашысты?

Я азірнуўся. За мной сядзела ля вакна худое такое, зусім дробненькае чарнявае хлапчанё і нешта малявала на запацелым шкле. Прыкінуў — слабейшы. І намацаў у кішэні сцізорык.

О, які то быў сцізорык! Цяжкі, срэбны, з вялікім лязом! Якраз напярэдадні здзейснілася мара — набыў у «Канцтаварах» на рагу Інтэрнацыянальнай і Леніна. Ніколі яшчэ я не адчуваў сябе такім рашучым і дужым.

«Ну што, жыд пархаты, фашыст?! Хочаш, зарэжу?!»

Выцягнуць з кішэні руку я не паспеў. Дасюль адчуваю на сваім твары цвёрдыя костачкі яговага кулачка і цёплую саланаватую юшку з уласнага носа...

**P.S.** Чытача, імаверна, цікавіць, што я адказаў на пытанне свайго маленькага засяроджанага суседа: за рускіх я ці за фашыстаў?

А тое і адказаў, што расказаў.

Але ён не слухаў. Усё ціснуў і ціснуў на свае кнопкі.

*kamerton_41@mail.ru*

# Станіслаў Шушкевіч: **Калі Беларусь атрымае ядзерную зброю — яна загіне**

23 сакавіка, узяўшы ўдзел у мясцовых выбарах, Аляксандр Лукашэнка доўга размаўляў з журналістамі. Сярод іншага ён сказаў, што падзеі ў Крыме падштурхоўваюць малыя дзяржавы да атрымання ўласнай ядзернай зброі.

«Гэты ганебны дакумент [Будапешцкі мемарандум па гарантыях ядзернай бяспекі — **«НН»**] мне прыйшлося падпісваць у прысутнасці прэм'ер-міністра Вялікабрытаніі, Біла Клінтана і Барыса Ельцына, калі ў нас вялікія свядомыя вывелі без усялякіх папярэдніх умоў, бясплатна аддалі ўсю ядзерную зброю, самае сучаснае. І тады Украіна і Казахстан гэта зрабілі. І тады тры дзяржавы — Расія, ЗША і Вялікабрытанія — гарантавалі нам эканамічную бяспеку, палітычную, тэрытарыяльную цэласнасць і іншае», — сказаў Лукашэнка.

«Вось гэта небяспечна. Ужо некаторыя дзяржавы адмовіліся, і Украіна заявіла аб тым, што выходзіць з гэтага пагаднення, развязваюцца рукі, асабліва парогавым дзяржавам, якія вось-вось гатовыя зрабіць ядзерную зброю. І наступствы могуць быць яшчэ больш жудаснымі. Ствараецца дрэнны прэцэдэнт», — падкрэсліў Лукашэнка.

Мы пагаварылі са Станіславам Шушкевічам, былым кіраўніком Беларусі і загадчыкам кафедры ядзернай фізікі БДУ аб тым, ці можа Беларусь займець сваю ядзерную зброю.



Закінутае сховішча ядзерных зарадаў пры аэрадроме дальняй авіяцыі (Брэсцкая вобласць).

VIRTUAL BREST.BY

**Станіслаў Шушкевіч:** На вялікае шчасце, Беларусь зрабіць сваёй атамнай зброі не можа. Дакладней, можа, калі ператворыць краіну ў Паўночную Карэю. Толькі ўлічыце яшчэ, што ў нас людзей у тры разы меней, чым у КНДР. Савецкі Саюз не пакінуў нам таксама тэхналогіі для атрымання рэчываў для атамнай зброі. Але самае галоўнае — няма нічога страшнейшага, чым наяўнасць атамнай зброі на нашай тэрыторыі.

**«НН»: Чаму?**

**СШ:** Беларусь была закладніцай. Расія зрабіла з нас своеасаблівы бар'ер. Калі б зброя засталася ў нас, то Беларусь трэба было б у любым канфлікце накрыць ядзерным ударам. Бо Беларусь пагражала б усяму свету. Таго, што ў нас было, абсалютна хапіла б, каб сцерці з карты свету Еўропу. Я лічу гэта сваім найвялікшым дасягненнем, што мы вывелі зброю з тэрыторыі Беларусі. Мы б загінулі як нацыя, калі б зброя ў нас засталася. Адраджаць яе можна, прабачце, толькі з такім розумам, як у Лукашэнкі. Бадлівай карове Бог рогаў, на шчасце, не даў. Мы не змаглі б гэтай зброяй абараніцца. Хутчэй, чым у Крым, да нас прыбылі б расійскія войскі, каб ізаляваць зброю ад «тэрарыстаў»-нацыяналістаў.

**«НН»: Вырабіць сваю ядзерную зброю — гэта вельмі дорага?**

**СШ:** Дорага захоўваць яе ў такім стане, каб яна была менавіта зброяй. Яна, як грыбы, гніе, калі яе не «пасаліць» і не дагледзець. Трэба праводзіць прафілактычныя працы, яны вельмі дарагія. А ў нас жа няма расійскіх нафтадаляраў. СССР у свой час падарыў многія тэхналогіі Паўночнай Карэі, і яны, галадаючы фактычна, гэтую зброю зрабілі. Мы ж галадаць не будзем — мы ў Еўропе. Гэта трэба рабіць заводы па ўзбагачэнні ўрану, трэба купляць той самы ўран...

**«НН»: А спецыялістаў адпаведных мы маем?**

**СШ:** Так, маем. І, думаю, яны былі б здольныя зрабіць ядзерную зброю. Але гэта значыць марнаваць нашых людзей дзеля такіх сумнеўных мэтаў. Але нават для Украіны гэта было б не так небяспечна, як для Беларусі. Бо ва Украіне зброя захоўвалася ў шахтах, а ў нас — на паверхні.

**«НН»: Ва Украіне ёсць крыху ўрану, а яна можа вырабіць зброю?**

**СШ:** Ва Украіне разумныя, нармальныя палітыкі. Яны ніколі не пойдуць на тое, каб мець ядзернае ўзбраенне. Увесь — заўважце, — увесь Саюз рабіў ядзерную зброю. А Украіна трохі меншая за Саюз. Ёсць, дарэчы, і міжнародныя пагадненні, паводле якіх і Украіна, і Беларусь абавязаліся быць бяз'ядзернымі дзяржавамі.

**«НН»: Некалькі гадоў таму з'яўлялася інфармацыя, што ў Соснах ёсць высокаўзбагачаны ўран, з якога магчыма вырабіць ядзерную зброю. Гэта праўда?**

**СШ:** Гэта толькі Лукашэнка такое мог сказаць. Не паўтарайце ягоных баек. Я, на жаль, нават сёння не маю права выдаваць пэўныя сакрэты. Але з тым высокарадыёактыўным брудам, які ёсць, які захоўваецца недалёка ад тых самых Соснаў, нічога людскага зрабіць немагчыма. Я ў свой час званіў Ельцыну, каб аддаць Расіі, якая мае тэхналогіі апрацоўкі такіх рэчываў, гэты бруд. Але Расіі гэта аказалася нявыгадна. Мы працягваем захоўваць гэтыя радыеактыўныя рэчывы, яны добра захоўваюцца, нікому не пагражаюць. Яны пры беларускіх тэхналогіях нават намёкам быць не могуць на сыравіну для ядзернай зброі.

**«НН»: Дык гэта ўсё ж высокаўзбагачаны ўран, правільна?**

**СШ:** У Беларусі быў рэактар ІРТ-2000, які функцыянаваў у Соснах. Сёння рэактара няма. Куды ён дзеўся? Яго не вывезлі. Бруд ад яго застаўся. Я не магу гаварыць, дзе ён, што ён, небяспечна пашыраць такую інфармацыю. Нават пры добрых тэхналогіях — гэтага мала для ядзернай зброі.

**«НН»: А Астравецкая АЭС не адкрывае дарогу для стварэння сваёй ядзернай зброі?**

**СШ:** Любая атамная электрастанцыя можа служыць для атрымання матэрыялаў, якія пасля пэўнай апрацоўкі зробіцца рэчывамі для ядзернай зброі. Існуе міжнародная арганізацыя МАГАТЭ, якая сочыць за гэтым. На сённяшні дзень не існуе яшчэ праекта, па якім будзе будавацца Астравецкая АЭС, — гэта я вам дакладна кажу, бо там працуюць мае былыя студэнты.

Ёсць многа праблем з АЭС пад Астраўцом. Вятры адтуль дзьмуць у бок Мінска. Гэтае месца выбранае, каб пагражаць суседу, а пагражаем самі сабе.

**«НН»: Вяртаючыся да словаў Лукашэнкі: ці не будуць зараз еўрапейскія дзяржавы вырабляць сваю ядзерную зброю?**

**СШ:** Ім не трэба тое рабіць. Ядзерная зброя ёсць у НАТА. Ёсць у Францыі, Вялікабрытаніі. Можа, добра, што яе не маюць немцы. У Еўропе ёсць баланс. НАТА кіруюць стрыманыя людзі, якія ніколі не пагражаюць ядзернай зброяй, хоць усё гэта ёсць. Калі свет пойдзе па шляху нераспаўсюду ядзернай зброі, то гэта будзе найлепшым варыянтам.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

**Ядзерная зброя**

Від зброі масавага знішчэння, дзеянне якой заснавана на выкарыстанні энергіі радыеактыўнага распаду. Упершыню ўжыта і ў 1945 годзе ЗША супраць Японіі. Асноўныя паражальныя фактары ядзернай зброі: ударная хваля, пранікальная радыяцыя, электрамагнітны імпульс, светлавое выпрамяненне. Выкарыстанне ядзернай зброі выклікае моцнае радыеактыўнае забруджанне мясцовасці. Сродкам дастаўкі ядзернай зброі могуць служыць артылерыйскія снарады, авіяцыйныя бомбы, ракеты.



**Станіслаў Шушкевіч**

Нарадзіўся ў 1934 у Мінску. Фізік, дзяржаўны дзеяч, першы кіраўнік незалежнай Беларусі, адзін з трох удзельнікаў падпісання Белавежскага пагаднення, якое юрыдычна замацавала распад СССР. Член-карэспандэнт Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі (1991). Доктар фізіка-матэматычных навук (1970), прафесар (1972). Заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі Беларусі (1982).

**«Ядзерны клуб»**

Умоўная назва групы так званых ядзерных дзяржаў — дзяржаў, якія ажыццявілі распрацоўку, вытворчасць і выпрабаванні ядзернай зброі. Па афіцыйных дадзеных ядзернай зброяй у цяперашні час валодаюць наступныя краіны (па годзе першага ядзернага выпрабавання): ЗША (з 1945), Расія (першапачаткова Савецкі Саюз, 1949), Вялікабрытанія (1952), Францыя (1960), Кітай (1964), Індыя (1974), Пакістан (1998) і КНДР (2006). Таксама лічыцца, што ядзерную зброю мае Ізраіль.

# Выбары? Спектакль!

Прайшла чарговая кампанія пад назвай «Выбары». А я за дзесяць гадоў удзелу ў іх маю пэўны досвед.

**2003 год.** Падаў дакументы на рэгістрацыю ініцыятыўнай групы. Адразу ўбачыў, што мяне там не чакалі. У выніку быў зняты з рэгістрацыі па надуманай абсурднай падставе.

**2004 год.** Выбары ў Палату прадстаўнікоў. На другі дзень пасля здачы дакументаў у камісію чатырох чалавек змусілі напісаць заявы аб выхадзе з ініцыятыўнай групы. Пасля праводзіў назіранне на Руднянскім выбарчым участку. За 5 дзён датэрміновага галасавання на ўчастку, па маіх падліках, прагаласавала каля 30% выбарцаў! Увечары раптам замянілі ахову ўчастка: замест участковага прыслалі інспектара ДПС. І наранiцу старшыня камісіі дакладваў у раён, што датэрмінова прагаласавала болей за 70%!

За 40 хвілін да закрыцця на ўчастак патэлефанаваў выбаршчык, які забыўся прагаласаваць. Старшыня накіроўвае 2 людзей са спісам і пачкам бюлетэняў.

Падлік бюлетэняў праводзіўся з усіх скрыняў разам. Пакуль сябры камісіі разам з ахоўнікам і пажарнікам лічылі галасы, старшыня з сакратаром паспелі запоўніць пратакол.

Аб усіх парушэннях напісаў у заяве ў ЦВК, адкуль атрымаў адпіску: «Узгаданыя парушэнні не паўплывалі на агульныя вынікі, а пра парушэнні трэба паведамляць адразу».

**2006 год.** Падаў заяву з подпісамі выбаршчыкаў аб уключэнні ва ўчастковую камісію — адмовілі. Пазней атрымаў штраф за распаўсюд звестак аб сустрэчы даверанай асобы з выбарцамі, афіцыйна — за засмечванне горада.

**2007 год.** Быў зарэгістраваны кандыдатам у дэпутаты абласвета па Капыльскай выбарчай акрузе №48. Падчас агітацыі і датэрміновага галасавання выявіў шэраг парушэнняў заканадаўства. Аб парушэннях адразу ж паведамляў у ЦВК. І вось вынік. У ноч на 12 студзеня ў вёску па месцы жыхарства наведаліся супрацоўнікі спецслужбаў. Жаночы голас папрасіў пусціць у хату пагрэцца. Затым дзверы паспрабавалі выбіць нагамі — не выйшла. Разбілі шкло левай пярэдняй дзверкі «Масквіча», запіхнулі ў машыну дзяўчыну. Па выкліку прыехаў спачатку адзін міліцыянт, а пасля і цэлая брыгада. Доўга пісалі пратакол. Праз дзён дзесяць даслалі адпіску: дзяўчына была п'яная, не памятае, як трапіла ў вёску, машыну разбіла не наўмысна.

Вось так нанёс маральны і матэрыяльны ўрон — і няма вінаватых. Пракуратура прызнала дзеянні міліцыі правільнымі. Вось вам роўныя правы і ўмовы ўсіх кандыдатаў.

**2008 год.** Выбары ў Палату прадстаўнікоў. Праводзіў доўгатэрміновае назіранне на 4-х выбарчых участках Капыля. Выявіў парушэнні. Пракуратура пацвердзіла іх, але ўсе засталіся ў камісіях.

Адных прызначаюць дэпутатамі, іншых старшынямі камісій, а ўжо старшыні сумесна з загадчыкам аддзела арганізацыйна-кадравай працы райвыканкама фарміруюць самі камісіі. Бачыў, як выніковыя пратаколы здаюцца ў выканкам напалову не запоўненымі…

**2010 год.** Мясцовыя выбары. У Вялікараеўскім сельсавеце яшчэ да вылучэння пабачыў такі дакумент «Список предполагаемых кандидатов Великораевского сельсовета 26 созыва», падпісаны старшынёй сельвыканкама.

Прысутнічаў на падліку галасоў на Партызанскім выбарчым участку. Па словах назіральнікаў, павінен быў быць абраны дэпутатам у раённы савет. Але сябры камісіі, палічыўшы адабраную колькасць бюлетэняў, моўчкі паднoсілі старшыні аркуш паперы. Потым ён амаль гадзіну, а можа і болей, нешта пісаў. У выканкаме начапалі хвалявацца: чаму так доўга? Але старшыня запэўніў, што ўсё ідзе нармальна, хутка скончыць. Аб'яўленыя ім вынікі збянтэжылі нават назіральнікаў.

У гэтым жа годзе былі выбары прэзідэнта. Збіраў подпісы за альтэрнатыўнага кандыдата. Людзей папярэджвалі, каб ні за каго болей не падпісваліся апрача Лукашэнкі…

З усяго гэтага высновa наступная. Выбараў у краіне няма. Усіх кандыдатаў прызначаюць на адпаведным узроўні, гэтаксама і сяброў камісіі.

Гэта пацвердзілася і сёлета.

Прыклад. Участковая камісія Камсамольскага выбарчага ўчастка №19 складае 12 чалавек. 9 чалавек — настаўнікі СШ №2, астатнія — 3 чыноўнікі аддзелаў і арганізацый. Адзін намеснік дырэктар — старшыня, другі — сакратар камісіі. Дырэктар школы — дэпутат райсавета. Амаль усе акругі безальтэрнатыўныя…

А пасля нідзе нічога не можам дабіцца. Калі ты не «чалавек на выгадкай пасадзе», дык ты і не патрэбны нікому.

Таму не варта нават браць удзел у гэтым спектаклі. Ісці на выбары — значыць змагацца з ганебнай абразай «шалудзівы народзец».

**Віктар Дашкевіч, Капыльскі раён**

### Заганялі на выбары

Прашу давесці да чытачоў інфармацыю: студэнтам БДЭУ, якія пражываюць у інтэрнаце, пагражалі пры няяўцы на выбары не выдзеліць месца ў наступным годзе.

Пагрозы ішлі як ад кіраўніцтва інтэрната, так і ад універсітэта.

**Студэнт**

### Віцебск: прагаласуй, а то вылеціш з інтэрната ды з працы

У Віцебску насельнікаў працоўнага інтэрната па вуліцы Лазо, 100/2 пад пагрозай высялення прымушалі прагаласаваць датэрмінова. Тых, хто прагаласаваў, мусілі распісацца ў спісе камендантa інтэрната.

Аналагічная сітуацыя і ў віцебскай гімназіі № 8. Тут намесніца дырэктара па гаспадарчай частцы патрабавала, каб усе прагаласавалі.

**Сведка**

Вясёлае пяро

## Ратуйце Домрачаву




Піша **Павел Савоська.**

Усе мы былі пад уражаннем ад выдатнага выступлення Дар'і Домрачавай на Алімпіядзе ў Сочы. І ўсё было б добра, калі б не лыжка дзёгцю.

Тужліва і самотна на сэрцы ў кожнага беларуса. Наша трохразовая алімпійская чэмпіёнка, Герой Беларусі, рыхтуе такую аплявуху, ад якой мы не скора і ачомаемся.Слабейшыя і ў бальнічны ложак могуць загрымець.

А ўся справа ў тым, што наша Даша, у самы бліжэйшы час, хоча пабрацца шлюбам з нарвежцам Оле-Эйнарам Б'ёрндаленам. Быў бы гэты чужынец малады, прыгожы і халасты, то такой бяды. Але ж Дарка збіраецца за чалавека, хаця і вядомага спартсмена, які размяняў ужо даўно пяты дзясятак год. І гэта яшчэ не ўсё! Ён са згоды Даркі развёўся са сваёй жонкай, пакінуў трое дзетак.

І наша, пакуль яшчэ што, Даша плануе на чужым горы пабудаваць сваё асабістае шчасце. Такога, шаноўная спадарыня Адар'я, табе не ўдасца. Былая жонка гэтага нарвежца абавязкова цябе пракляне. А жаночы праклён, як калісьці сказаў вялікі афонскі старац Паісій, мае вялікую сілу, сам Усявышні яго дапускае, асабліва ў тым выпадку, калі ён справядлівы. І што тады чакае нашу Дарку? Гэты яе выбраннік вельмі хітры. Заявіў, што выступаць больш не будзе, не тыя гады, а выплачваць аліменты на дзетак то трэба! Вось і плануе адправіць Дар'ю на лыжню, каб зарабляла грошы, а сам ля каміна будзе грэцца...

Няўжо Дарка не разумее, што, калі толькі сама пачала поўзаць пад стол, яе выбраннік ужо ва ўсю ўдзельнічаў у спаборніцтвах. У яго спартыўны стаж больш за 25 гадоў!

І як трапна не так даўно сказаў мне дзед Кузьма, што гэты «чортаў жаніх усе жылы парваў на лыжні! А ў Дашы не каханне — ёй мача ў галаву ўдарыла, такое бывае. Каб была маёй унучкай, то ўваліў бы папружкай па мяккім месцы».

Няўжо ў нашай краіне не знайшлося б жаніха для Дашы? Я ўпэўнены, што добрая сотня маладых і гарачых да кахання хлопцаў гатова прапанаваць Дашы сваю руку і сэрца! Толькі выбірай!

Асабіста я ведаю хлопца, які кахае Дашу ўжо дзясяты год. Але яму боязна нават ліст ёй з прызнаннем напісаць. Учора мне са слязамі сказаў: «Павел, можа ты напішаш?»

А я ў адказ: «Андрэйка! Ды я быў старацель, у мяне пяць класаў адукацыі! А ты БНТУ скончыў, не курыш, не выпіваеш і так класна гуляеш у валейбол!»

Андруша ўздыхнуў і ціха прамовіў: «Спазніўся я, нарвежца яна ўпадабала!» Ці можна яшчэ ўратаваць Дашу ад самай вялікай памылкі ў яе жыцці? Калі б гэтая нататка трапіла на старонкі маёй любімай газеты, то зрабіла б вялікую справу...

Найбольшыя надзеі я ўскладаю на супрацоўнікаў Камітэта дзяржаўнай бяспекі. Бо ў пачатку лета, наколькі мне вядома, Даша збіраецца з жаніхом у адпачынак. Вось там супрацоўнікам КДБ і карты ў рукі. Вылавіць нарвежца і ўваліць так «на бакі», каб забыў не толькі імя Дашы, але і сваё асабістае...

А як інакш? Толькі так!

Водгукі

### Вялікі дзякуй, шаноўная рэдакцыя газеты «Наша Ніва»

Ступень маёй удзячнасці нельга выказаць ніякімі словамі… Атрымаў ад Вас бандэроль са сваім артыкулам — гэта непярадавальнае пачуццё, што мой маленькі інтэлектуальны ўнёсак у беларускую справу не застаўся незаўважаны.

Мае знаёмыя з Гродна неяк сказалі мне: «Ты гаворыш па-беларуску лепш, чым бальшыня нашых сяброў у Гародні…» Я ў гэта не веру, дый не хачу верыць.

Вы таксама далучылі да бандэролі наступны нумар «Нашай Нівы» — шчыра дзякую Вам за яго. Неймаверна — сачыць за падзеямі ва ўласнай краіне праз замежныя СМІ…

Тым больш, што тыя падзеі, якія разгортваюцца на русіфікаваным усходзе Украіны ды акупаваным Крыме, маюць свае карані ў той палітыцы,ад згубнасці якой пакутуе і Беларусь.

**З павагай,**
**Аляксандр Кузьменка,**
**Харкаў (Украіна)**

### Сяброўская вандроўка

**ЖЫРМУНЫ—РАДУНЬ—ГАЙЦЮНІШКІ**

Запрашаем 6 красавіка з намі ў вандроўку «Архітэктурная спадчына і культурныя ланшафты паўночнай часткі гістарычнай Лідчыны, сучаснага Воранаўскага раёна: радзіма і месца жыхарства знакамітага гісторыка Вялікай Літвы Тодара Нарбута, яго сына Людвіка — легендарнага паўстанца 1863 г., Вандаліна Шукевіча — аднаго з пачынальнікаў археалогіі Беларусі, месца жыхарства ў шлюбе і апошняга спачыну Марылі Верашчакі».

А дакладней — гэта касцёлы ў Жырмунах, Начы, Беняконях, Радуні, Асаве, Канвелішках, сядзіба ў Больценіках, дом-крэпасць і руіны кальвінскага збору ў Гайцюнішках.

Кошт вандроўкі: 250 000 бел. руб. (падарожжа з экскурсійным забяспячэннем).

Кантакты: (029) 169-48-11, (029) 111-73-32 meliashkevich@gmail.com



Цытата




### Зміцер Дрозд: Фраза «Мы адзін народ» павінна быць забароненая

«Фраза «Мы адзін народ» павінна быць забароненая, як любыя іншыя фашысцкія лозунгі, — піша ў сваім Фэйсбуку былы палітвязень, гісторык Зміцер Дрозд, — бо за ёй стаіць толькі адно: існуе толькі мой народ, а твайго — няма, не было і не будзе».




**Уласнік партала Tut.by Юрый Зісер адказаў на эсэ Стася Карпава «Даведка нацыяналіста» («НН» №8) артыкулам «Даведка інтэрнацыяналіста».**

**Чытайце на NN.BY.**

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск. e-mail: nn@nn.by.**
**Факс: (017) 284-73-29**

# Дон Жуан як ідэальны спажывец

**Купалаўскі тэатр** паставіў «Дона Жуана» — найлепшы спектакль за апошнія пяць гадоў.

Камедыя Мальера, паводле якой створаны спектакль, калі яе чытаеш, падаецца безнадзейна састарэлай. Каго ў пачатку XXI стагоддзя зацікавіць правільны, занудны тэкст часоў класіцызму — пра бабніка і блюзнера дона Жуана, які за сваю распусту нарэшце быў пакараны Небам? Але купалаўцы бліскуча абверглі такі песімізм.

Па-беларуску камедыю перастварыў паэт Андрэй Хадановіч. Дзякуючы яму, героі Мальера размаўляюць жывой сучаснай беларускай мовай. «Механізм чалавечага цела з усімі яго прычындаламі», — кажа дон Жуан (Павел Харланчук). «Трэба з дуба ляснуцца, каб размаўляць са статуяй», — адзначае ён у іншай сітуацыі.

Паставіў «Дона Жуана» рэжысёр Анатоль Праўдзін з Санкт-Пецярбурга — яго запрасіў у Мінск кіраўнік Купалаўскага Мікалай Пінігін. Праўдзін перанёс дзеянне п'есы ў наш час. Як высвілася, дзеля гэтага трэба было толькі крыху асучасніць касцюмы герояў і канфлікт. І наколькі сугучныя з сённяшнім днём словы Мальера, напісаныя ў 1665 годзе! А маналог дона Жуана пра крывадушша («Прыкрыліся дабрадзейнасцю і робяць гнюснасці») дык наўпрост прымушае згадаць пра набалелае.

Дон Жуан у спектаклі паказаны як тыповы «мажор». Самазакаханы нарцыс, ён уважліва сочыць за сваім выглядам. Гэта падкрэсліваецца ў сцэне з гасцямі: нягледзячы на іх прыход, дон Жуан працягвае рабіць сабе касметычную маску. Цынічны і бессаромны ў сваёй абаяльнасці і маладосці, герой Харланчука з лёгкасцю спакушае і вытанчаную арыстакратку Эльвіру (Юлія Шпілеўская), і недарэчную дурнічку-сялянку Шарлоту (Кацярына Алейнікава). Яму прыемны сам працэс. Жыццёвая філасофія дона Жуана бачная ў размове з жабраком (Арнольд Памазан): на просьбу таго пра міласціну галоўны герой адказвае, што яе трэба зарабіць блюзнерствам. У яго цынічным свеце няма месца сумленню, а грошы граюць галоўную ролю. У сучасным кіно такіх герояў свет, і, што цікава, з іх многія выклікаюць сімпатыю. Харланчукоў дон Жуан дазваляе адкінуць выкручаную мараль і пабачыць зло ў аблічны зла. Магчыма, сыграць гэты вобраз так пераканаўча Харланчуку дапамог не толькі яго талент, але і яго пратэстантызм.

У версіі Анатоля Праўдзіна дон Жуан паступова набывае рысы пачвары, ён дасягае мэты любымі сродкамі. Ён маніпулятар людзьмі і дэмагог, ён сее вакол пакуты і смерць. Селянін П'еро, у якога герой дзеля забавы адбівае нявесту, скончае жыццё самагубствам. Гандляра Дыманша, пазычыўшы ў яго грошы, дон Жуан палохае да смерці (у Мальера такога сюжэтнага павароту няма).

Апрануты ў скураную куртку і берцы дон Жуан са сваімі служкамі тэрарызуе наваколле і ўсё больш нагадвае кіраўніка банды з крымінальнага серыяла — магчыма, рэжысёр і скарыстаў гэты вобраз, бо ён сучаснаму гледачу ясны.



Цікава, як змяняецца вобраз Сганарэля (Віктар Манаеў), слугі дона Жуана. (Ах, гэта Манаеў — вечны слуга.) Ён спачатку выступае антыподам гаспадара, заклікае яго схамянуцца, вярнуцца да хрысціянскага прыказання. Але паказальны фінальны маналог Сганарэля: ніводная смерць, якая адбылася па іх віне, не засмучае слугу. Герой Манаева падкрэслівае згубнасць супрацоўніцтва са злом. Немагчыма хадзіць па гразі і не ўквэцацца.

Сцэнічнае адзенне «брыгады» дона Жуана вырашанае праз брутальныя чырвоны і чорны колеры (мастак па касцюмах Валянціна Праўдзіна). А вось убор дона Алонса і дона Луіса (братоў Эльвіры, якія збіраюцца помсціць за зняважаны гонар сястры), наадварот, прадстаўленыя ў мяккіх танах (белы, блакітны, шэры). Гэтыя героі і самі мяккія і бяскрыўдныя, смешныя ў сваёй бездапаможнасці супраць хама і цыніка. Спробы кампрамісу з ім згубныя: дон Жуан проста здзекуецца з братоў, размалёўваючы іх, нібы блазнаў у цырку.

Фінал спектакля — што ў часы Мальера, што сёння, — той самы: калі грамадства не можа даць рады нягоднікам, застаецца чакаць толькі боскай кары. Гібель дона Жуана паказаная маляўніча. Ён паціскае руку камандору — і ўвесь пачынае палаць, нібы ад вогнішча. Да паміраючага нягодніка падыходзіць анёл і ўстаўляе ў яго вопратку гваздзікі, нібыта на пахаванні.

Калі дон Жуан канае, выходзіць Сганарэль і роспачна пытаецца: дзе мае грошы?

**Дзяніс Марціновіч**

## «Наперад, пакуль не памерла надзея»

**Лявон Вольскі** прэзентаваў альбом «Грамадазнаўства».

«Нам не трэба болей волі, нам і гэтага даволі, дастаткова, болей чым!» — крычыць Лявон Вольскі. Самы заслужаны рок-музыка Беларусі вяртаецца да песняў пратэсту, з перагружанымі гітарамі і тэкстамі «на злобу дня».

Апошнія восем год музыка займаўся гуртом «Крамбамбуля», праектам хутчэй папсоварэстаранным, чым «рэвалюцыйным», таксама Вольскі выдаў прыгожую «Белую яблыню грому», паклаўшы на музыку вершы класікаў нацыянальнай паэзіі.

І вось — «Грамадазнаўства». З чорнай вокладкі на слухача глядзіць бел-чырвона-белы твар Вольскага, назвы песняў кажуць самі за сябе: «Чужы», «Ніхто не хацеў паміраць», «Прастытуткі і міліцыянты». У інтэрнэт музыка выклаў свой альбом 25 сакавіка — на Дзень Волі.

«Грамадазнаўства» — гэта 11 песняў, кароткіх і моцных, як камень, які ляцінь у вітрыну: «Льецца на дол кроў гарадоў, шэрая кроў», «дзяўчаты выглядаюць як прастытуткі, хлопцы выглядаюць як міліцыянты», «яны прагнуць крыві, яны прагнуць гвалту і сэксу». Апошняя цытата з песні




«Бульбашы», у якой Вольскі разбіраецца з той катэгорыяй насельніцтва, якая прагне вайны, «а калі няма з кім біцца, б'ецца сама з сабою».

Не ўсе песні альбома «баявыя», ёсць і рокава-лірычная «Чужы» — пра вечную беларускую непрытульнасць: «і тут ты чужы, і там ты чужы».

У альбом увайшлі і песні з фільма «Жыве Беларусь!» пра падзеі Плошчы-2010, у тым ліку «Краіны няма». Яна, як «Тры чарапахі» або «Мінск—Менск», мае патэнцыял і нібы створана для спеваў у двары пад гітару.

Гэты альбом Лявон Вольскі запісаў з нарвежскімі музыкамі Снорэ Бэргерудам і Сіндрэ Скэе. Яны гралі на ўсіх інструментах, Вольскі толькі спяваў.

Вольскі ў новым абліччы набліжаецца да творчасці «плакатна-баявога» Міхалка. Але Лявонава творчасць кранае самыя тонкія струны беларускай душы. Пасля праслухоўвання застаецца пытанне: ці будзе працаг?

У звароце музыкі да тае паэзіі і сацыяльна-палітычнага пасылу, з якіх ён пачынаў у 1980-я, няма дзіва. Творчасць кожнага генія ёсць рэакцыяй на рэчаіснасць і адказам на яе балючыя пытанні. А рэчаіснасць у цэлым рэгіёне стала выглядаць так, што ўчорашнія песімісты сёння падаюць аптымістамі.

**Юрась Ускоў**

## Дыета і станікі

Журналістка і пісьменніца Маргарыта Аляшкевіч калісьці з поспехам выступала ў мадэльным бізнэсе. Гэты досвед яна выпісала ў дэбютнай кнізе прозы «Мадэль для забойства». Кніжка з'явілася ў электронным выдавецтве «Bybooks» — чытаць яе можна толькі ў інтэрнэце.

Дзеянне «Мадэлі» адбываецца ў Японіі. У аэрапорце сустракаюцца дзве беларускі: журналістка Агата і супермадэль Яначка. Паколькі тая не ведае нават англійскай мовы (не кажучы пра японскую), Агата пачынае дапамагаць землячцы.

Сюжэта ў кнізе няма. У ёй адчуваецца не прычынна-выніковае (мужчынскае), а асацыятыўнае (жаночае) аўтарскае мысленне. Кніга складаецца з васьмі навелаў, мала звязаных між сабой, частка іх застаецца незавершанай. Напрыклад, раздзел «Дыета» расказвае, як сяброўкі худнеюць, а Агата выратоўвае Яначку ад анарэксіі, раздзел «Станікі» — як сяброўкі мераюць бялізну, даюць адна адной парады, а адна ўяўляе, што задушыла б другую гэтым станікам... Аляшкевіч іранічна расказвае пра жаночы свет вачыма жанчыны — такое рэдка дзе прачытаеш.




**Максім Кавальскі**

### Сцісла

**Канцэрты «Ляпісаў» забараняюць у Расіі**

Гаспадара цюменскага клуба «Міраж» прыстрашылі, што клуб будзе зачынены, калі ў ім пройдзе канцэрт беларускага гурту «Ляпіс Трубяцкі». Напярэдадні быў адменены канцэрт у Пскове.

Цяпер «Ляпіс» едзе ў тур па гарадах Украіны. 28 сакавіка гурт выступіць у Палтаве, 29-га — у Харкаве, 31-га — у Луганску, 1-га красавіка — у Данецку, 2-га — у Днепрапятроўску, 4-га — у Адэсе. 5-га красавіка гурт выступіць у Хмяльніцкім, а 6-га — у Львове. 7 красавіка плануецца вялікі канцэрт у Маскве. Гэты тур стане развітальным: лідар гурту Сяргей Міхалок заявіў, што распускае сваю легендарную каманду.

**Хадановіч атрымаў «Залатую літару»**

Гэту суб'ектыўную прэмію за найлепшую кнігу года ўручае пісьменнік і выдавец Адам Глобус. Яе грашовае вымярэнне складае 111 еўра. Сёлетнім пераможцам стаў Андрэй Хадановіч за кнігу «Дэжа вю».

**Сігаву не працягнулі кантракт**

Ад 2012 года дырэктарам Тэатра беларускай драматургіі з'яўляўся адзін з вядучых акцёраў тэатра Ігар Сігаў. Разам з Аляксандрам Гарцуевым, мастацкім кіраўніком тэатра, Сігаў зрабіў РТБД адным з найлепшых драматычных калектываў сталіцы. Але Мінкультуры, якому падпарадкоўваецца тэатр, вырашыла не працягваць кантракт з Сігавым. Пад лістом у абарону дырэктара падпісаліся 80 супрацоўнікаў тэатра з 100. Мінкультуры падзякавала ім за неабыякавасць, але рашэння не памяняла.

**У Мінску адкрылася дзіцячая кнігарня**

Кнігарня «Букварыум» змешчаная ў гандлёвым цэнтры на Нямізе, 3. Беларускіх выданняў там пакуль малавата. Відаць, выдаўцы яшчэ не агледзелі месца і не пайшлі з прапановамі.

**МК**

# Адказ патрыярху Кірылу

Пра невядомыя абставіны «вызваленчага» паходу Івана Жахлівага на Полацк піша гісторык **Андрэй Янушкевіч**.

Выказванні патрыярха Кірыла пра полацкі паход 1563 года адначасова шакуюць, прымушаюць узяцца за галаву з-за глупоты і засмучаюць сур'ёзнасцю пасылу. Менш за ўсё тут паспешлівасці высноў і прафесійнай некампетэнтнасці «пісараў» патрыярха. Гэта — свядомае перакручванне фактаў, якое сігналізуе (асабліва ў кантэксце падзей вакол Украіны) пра адзін важны сімптом хваробы, якая пачынае распаўсюджвацца па расійскім інтэлектуальным асяроддзі, — любую гістарычную падзею дзеля палітычнай мэтазгоднасці можна развярнуць на 180 градусаў, зрабіўшы чорнае — белым і наадварот. Ідэя патрыярха Кірыла досыць простая — заразу з Захаду, які імкнецца не проста навязаць свае каштоўнасці і ідэалы, а знішчыць «руска-праваслаўную» ідэнтычнасць, трэба спыняць. 450 год назад гэтую місію выканаў Іван Жахлівы, а сёння гэта робіць Пуцін. Так з вуснаў рэлігійнага аўтарытэта гучыць ідэалагічнае абгрунтаванне палітыкі расійскіх уладаў, якія не дазваляюць Захаду ахапіць сваімі ўплывамі Крым і Украіну, перафарматаваць іх на свой лад.

Мне давялося дэталёва вывучаць увесь стос крыніц і працы гісторыкаў, прысвечаных узяццю маскоўцамі Полацка ў 1563 годзе. Таму хацелася б звярнуць увагу на некаторыя малавядомыя нюансы гэтай падзеі.

### Прапаганда з крыжам Еўфрасінні

Выправе на Полацк папярэднічала шырокамаштабная акцыя рэлігійнага зместу. Іван Жахлівы ўзяў з сабою славуты Крыж Еўфрасінні Полацкай, які здаўна захоўваўся ў Смаленску. Лебядзеўскі летапіс занатаваў матывацыю гэтага ўчынку маскоўскага ўладара: «Цар крыж узяў з сабою і маючы надзею на міласэрнага Бога і на хрэсную сілу перамагчы ворагаў сваіх, што і адбылося». Для Івана Жахлівага выправа на Полацк была своеасаблівым крыжовым паходам.

Характарызуючы прычыны выправы, маскоўскія летапісцы тлумачылі, што яна ажыццяўляецца, «найперш пакутуючы сэрцам за святыя іконы і святыя храмы свяшчэнныя, бо бязбожная Літва пакланенне святых ікон адкінула, святыя іконы пашчапалі, і многія паруганні святым іконам учынілі, і цэрквы разрабавалі і папалілі, і, хрысціянскую веру і закон пакінуўшы і папраўшы, лютарства прынялі». Звернем увагу на словы пра глумленне над іконамі. У 1562 у Полацку разгарэўся канфлікт паміж праваслаўнай іерархіяй і мясцовымі пратэстантамі, які мелі, без сумневу, маўклівую падтрымку з боку мясцовых уладаў. Невядома дакладна, у чым была яго сутнасць. Цалкам магчыма, што меў месца факт іканаборства. Такім чынам, маскоўцы вырашылі спыніць пратэстанцкую заразу і абараніць праваслаўную веру... захапіўшы Полацк.

### Ліцвінам хлусілі пра мір

У кастрычніку 1562 польны гетман Рыгор Хадкевіч з уласнай ініцыятывы вырашыў наладзіць кантакт з дэрпцкім ваяводам Іванам Фёдаравым дзеля спынення вайны. Маскоўцы нібыта пайшлі насустрач мірным прапановам. У лістападзе 1562 у Маскву быў накіраваны ганец Сямён Аляксееў. Аднак пасля візіту да мітрапаліта і баяр, які скончыўся ўжо 30 лістапада, літоўскага ганца адправілі не назад у Вільню, а спачатку ў Цвер, потым у Пскоў і Дэрпт. Увесь гэты час абнадзееныя ліцвіны спадзяваліся на новыя мірныя перамовы, якія прывядуць да замірэння.

Толькі 20 студзеня літоўскі пасланец быў адпушчаны на тэрыторыю ВКЛ. Да падыходу маскоўскага войска да Полацка заставалася 10 дзён. Такім чынам, Крэмль успрыняў ініцыятыву ліцвінаў як магчымасць пацягнуць час, пусціць пыл у вочы зацікаўленнем да мірных прапаноў і... належна падрыхтавацца да маштабнай ваеннай кампаніі супраць Полацка.

Дарэчы, падрыхтоўка працягвалася чатыры месяцы. Івану Жахліваму ўдалося сабраць самае шматлікае за XVI ст. маскоўскае войска — яно налічвала сама менш 30 тысяч баяздольных дваран і 200 гарматаў. Ліцвіны, знаходзячыся ў тумане пацыфісцкіх надзей, не паспелі належным чынам падрыхтавацца да адпору.



Усходні дэспат Іван Жахлівы. Заходнееўрапейская карыкатура.



Зверствы маскоўскіх войскаў падчас Лівонскай вайны. Гравюра з нямецкага інфармацыйнага лістка.



Аблога Полацка войскамі Івана Жахлівага.

### Праваслаўны клір падзякаваў «за вызваленне»

Падзеі ў Полацку пасля яго здачы даюць шмат інфармацыі для роздуму. Выглядае зусім невыпадковым, што місію капітуляцыі горада ўзяў на сябе мясцовы архіепіскап Арсеній. З аднаго боку, гэтая кандыдатура выглядала цалкам натуральнай, бо ж захопнікі прадстаўлялі праваслаўную краіну. Аднак ужо праз некалькі дзён пасля ўваходу маскоўскіх войскаў у Полацк — 18 лютага 1563 — праваслаўныя святары падчас службы ў Сафійскім саборы падзякавалі Івану Жахліваму за вызваленне «ад лютарскага гвалту». Выкладзеныя факты даюць добрую зачэпку для пошуку «пятай калоны» ў горадзе. У далейшым праваслаўнае святарства наўпрост супрацоўнічала з новымі ўладамі. Адзін з пратапопаў, Феафан, і ягоны зяць Рыгор Шчытаў інфармаваў маскоўцаў, дзе знаходзяцца межы Полацкага ваяводства. З мясцовага насельніцтва падчас маскоўскай акупацыі толькі праваслаўным святарам было дазволена жыць у Верхнім замку горада.

### Безвыходнасць для абаронцаў

Мы можам знайсці ў крыніцах заўвагі аб барацьбе поглядаў у лагеры палачан, канфлікце паміж полацкім ваяводам Станіславам Давойнам і віленскім ваяводзічам Янам Глябовічам наконт абарончай тактыкі, аб супярэчлівых дзеяннях падчас перамоваў з маскоўцамі ў першы тыдзень аблогі.

Паўстае вялікая спакуса ўявіць існаванне прамаскоўскай і антымаскоўскай партыі ў асяроддзі палачан. Некаторыя расійскія даследчыкі так і робяць. Аднак уважлівы аналіз крыніц паказвае, што ў аснове неадназначных і супярэчлівых учынкаў полацкіх абаронцаў ляжала перадусім асэнсаванне безвыходнасці свайго становішча, усведамленне слабасці для эфектыўнага супраціўлення і тактычныя пралікі кіраўнікоў абароны, у першую чаргу ваяводы Давойны. Ніколі потым улады ВКЛ не абвінавачвалі палачан у здрадзе і здачы горада.

### «Слова» Івана Жахлівага

Капітуляцыя Полацка пасля цяжкай двухтыднёвай аблогі без падтрымкі звонку зусім не была безагаворачнай. І тут мы падыходзім яшчэ да адной таямніцы. Маскоўскі цар даў 15 лютага 1563 палачанам загадкавае «слова», якое ў далейшым стала ледзь не прычынай абвастрэння маскоўска-літоўскага канфлікту і прывяло да ўзаемных абвінавачванняў у ілжы і хцівасці. Верагодна, гэтае «слова» датычыла вызначэння далейшага лёсу полацкай шляхты пасля захопу горада. Пасля супастаўлення розных крыніц вынікае, што Іван Жахлівы, як гэта часта бывала ў Сярэднявеччы, высакародна абяцаў адпусціць полацкую шляхту на волю. Аднак гэтага не зрабіў. У адным з дакументаў, выстаўленых вялікім князем літоўскім Жыгімонтам Аўгустам у 1565, ёміста ўказана, што ж учыніў Іван Жахлівы: «Ваяводу полацкага з многімі падданымі нашымі народу шляхецкага, так жа і паспалітых людзей супакоіўшы абяцаннем і словам сваім выпусціць вольна, таго не ўчыніў, але ў палон звёў народ хрысціянскі». У палон трапілі шляхта і мяшчане — да 20 тысяч чалавек. Яўрэі і бернардынскія манахі былі забітыя. Насельніцтва горада, па сутнасці, было татальна «перафарматавана».

Такі кшталт мела полацкая выправа 1563, у выніку якой «русское воинство остановило опасную агрессию», не дапусціўшы перафарматызацыі Расіі на заходні лад. Застаецца толькі саркастычна дадаць, што найлепшая абарона — гэта напад, а любыя факты можна перайначыць на свой лад, нават самы бязглузды.

**Кіраўнік Рускай праваслаўнай царквы пахваліў маскоўскага цара Івана Жахлівага за Лівонскую вайну.**

Пра гэта патрыярх Кірыл заявіў падчас асвячэння храма Нараджэння Прасвятой Багародзіцы ў Крылацкім горада Масквы.

«Вядома, што цар Іван IV Жахлівы наведваў гэтае месца, калі накіроўваўся ў паход на Полацк. Многія ўжо не ведаюць, што ад гэтага паходу залежаў шмат у чым лёс Расіі. І расійскае войска тады перамагло і спыніла небяспечную агрэсію, якая, як заўсёды, несла ў адносінах да Расіі не толькі спробу атрымаць матэрыяльныя даброты, закабаліўшы народ, але, што самае галоўнае, заўсёды былі спробы, як мы б сказалі сучаснай мовай, перафарматаваць нашу свядомасць, змяніць наша культурнае, нацыянальнае і рэлігійнае самаразуменне. Тады Іван Жахлівы не дазволіў гэтага зрабіць», — заявіў патрыярх Кірыл.



**Андрэй Янушкевіч**

гісторык, кандыдат гістарычных навук. Аўтар кнігі «Вялікае Княства Літоўскае і Інфлянцкая вайна 1558—1570 гг.»

# Як я бег па замерзлай Ашмянцы і горка плакаў

**Віктар Шукеловіч.**
Апавяданне.

Пальцы звонка стукалі аб хамут, нібы ледзяшы. Хамут ніяк не хацеў налазіць на конскую шыю. Можа, конь патаўсцеў? Я прыглядзеўся да яго запалых бакоў — не, не падобна. Гэта за ўсю зіму, пэўна, усох неўжываны стары хамут. Я тужыўся, зацягваючы пастронкі падсядзёлка на конскім баку, — збіраўся ехаць санкамі на калгасны млын. Трэба было намалоць збожжа, бо скончылася мука на корм для свіней. Ад марозу ў мяне палопалася скура на пальцах, з трэшчынаў на вуснах сачылася сукравіца — я выглядаў не найлепей у падзёртай дзедавай фуфайцы і кірзавых ботах, але худы, са збітай у кудлы грываю конь выглядаў яшчэ горш. Пяць мяхоў збожжа я не прынёс, а прывалок поцягам па снезе, пакрытым зледзянелай коркай. Хацелася есці і спаць, у рукі нібы хто калоў вострым шылам, але недзе там, у хляве з заінелымі сценамі, пішчалі з голаду змерзлыя свінні. Я пайшоў кінуць ім саломы, каб яны маглі зашыцца туды ад марозу. Ячменька, аднак, не калупалася з качулкі за хлявом. Я патыркаў у качулку вілкамі, але ў яе зацякла вада, і цяпер рулон быў адным вялікім кубікам лёду. Паддаўшыся нямозе, я кінуў вілы ў снег ды пачаў хукаць у фіялетавыя рукі, але нават мой подых быў астыглы. Фуфайка слаба грэла, і мароз праз каўнер і спаднізу студзіў маё сухое цела. Пальцы ног у кірзачах таксама зрабіліся калаватыя, і я з цяжкасцю павярушыў імі.

Конь, застаяўшыся на марозе, нервова пераступаў з нагі на нагу. Можа, прыкрыць яго якой дзяругай? Але няма часу, лянота, ды і ўсё роўна ў каня няма душы. «Но, кося, паехалі!» — я сеў на зваленыя ў санкі мяхі і падбадзёрыў каня, стукнуўшы па азадку лейцамі.

Сумна было неяк, ажно чорна ўнутры: раптам захацелася мець свой дом, уласны тапчан, хоць нешта сваё. Пакуль жа я жыў у дзедавай старой хаце разам з братам, яго тоўстай жонкай і чацвёркай іх дзяцей. Быў нібы за парабка — зрабі тое, прынясі гэна, напраў гэта... Цяжка, аднак, быць бабылём... Зашыць ці папраць нешта — трэба ў братавай жонкі прасіцца, а яна як зробіць якоесьці, то як пані — з вялікай ласкі.

Звярнуўшы з гасцінца на бальшак, я заўважыў, што па дарозе шыбуе нейкае дзіця. Ажно не дзіця гэта было, а высахлая і малая, нібы хворая, Зінка з Гарліншчыны, якая працавала на свінаферме ў Азяранах, нашым цэнтры калгаса.

— Сядай, Зінка, падвязу на работу, і так еду да вас на ферму на млын, — загукаў я да дзяўчыны, затрымаўшы лейцамі каня.

Зінка паслухмяна ўлезла ў санкі і села каля мяне на мяху. Галавою яна даставала мне толькі да пахі.

— Чаго трасешся? Не пахмялілася зранку? — кінуў я дзяўчыне, што ў мароз была ў тонкім паліто і з завязаным на галаве шалікам. На валасах, якія выставалі з-пад шаліка, і на вейках маладзіцы быў іней.

— Не п'ю ж я, ты ж ведаеш, — агрызнулася Зінка. — Пляцеш абы-што, а потым яшчэ дзівішся, што цябе людзі не любяць. Не плявузгай языком, то не атрымаеш па галаве абухом — прымаўка такая ёсць.

— Калі ты такая разумная, чаго так мала ў школе напрацавала, а цяпер свінням хвасты на ферме круціш? — мне было ў асалоду пакепліваць з дзяўчыны, якой, як рэдка каму з нашай ваколіцы, удалося скончыць педвучылішча і папрацаваць з месяц у школе.

— Ужо я разумнейшая за цябе, што ні кала ні двара не мае, а на братаву сям'ю парабкуе і ў лахманах ходзіць парватых.

Мне зрабілася чамусьці прыкра.

— А мяне за палітыку ж звольнілі, — цягнула далей Зінка. — Гэта ж я толькі педвучылішча скончыла і на першым уроку ў першым класе трэба было дзецям сцяг і герб Беларусі намаляваць. Перш я дзецям пра цяперашні сцяг расказала, як яго пасля вайны камуністы прыдумалі.

Я слухаў яе ўважліва, мне было цікава, а конь тым часам сунуўся з намі і мяхамі праз лес.

— Потым я дзецям расказала пра бел-чырвона-белы сцяг. Як князь на полі бою зняў з параненай галавы белую павязку, якая набрыняла крывёю, ды замахаў ёю, каб паказаць сваім войскам, што ён жывы, — ад аповеду ў дзяўчыны прыгожай чырванню разгарэліся бледныя шчокі. — А стары герб «Пагоня» — гэта ж рыцар, які імчыцца ўслед за ворагамі.

— Ну і што далей было? — запытаўся я.

— Я сказала потым, каб дзеці намалявалі сцяг і герб. Усе і намалявалі «Пагоню» ды бел-чырвона-белыя палотнішчы. Выставу я зрабіла ў школьным калідоры. Акуратненька малюнкі дзяцей там вывесіла. Яны з месяц правіселі, аж пакуль нейкая важная праверка ў школу не прыехала. Тады мяне і звольнілі за «прафнепрыдатнасць», нібыта я ўжо такая даўбня, што дзецям нармальна і расказаць нічога не магу.

— І трэба было табе пра «Пагоню» ў школе расказваць? На ражон пацягнула? — я шчыра паспачуваў дзяўчыне.

— Дык я рупілася, каб дзеці нешта ведалі. Тое, што ім з маленства ўкладуць, на ўсё жыццё застанецца. А я не ведаю, чаго тым — у вярхах — сцяг перашкаджае? Толькі ж рыска адна чырвоная на белым. А бягуць ад яе як чорт ад ладану. Каб я была якой начальніцай, то ўявіла б бел-чырвона-белы сцяг, каб быў усюды, але і не забараняла б, калі б хто хацеў мець чырвона-зялёны...

— А яны ўсе ў вярхах мусяць нечага баяцца. Ці помніш, як мы малыя былі, у касцёл няможна было хадзіць. Пад касцёлам стаяла правяральшчыца ў нядзелі, каб ніхто са старэйшых хаця дзіця не прывёў. А тую правяральшчыцу яшчэ з раёна правяралі, ці добра яна правярае... А цяпер тыя правяральшчыкі на першых лавах касцельных сядзяць. Альбо як цар Леніна душыў, а той усё адно перамог... Я дык думаю, што якраз і перамагае тое, што ўсе наўкол душаць. Можа, ты і не зусім дурная, — правакацыйна разважаў я. — Неяк жа ты педвучылішча закончыла... А чаго на якую лепшую працу не пайшла, а на ферму табе захацелася?..

## Раптам мяне прасвятліла — гэта ж я нібы ад смерці з касою ўцякаю

— Ды я шукала ў горадзе ў магазіне сабе месца, а тут мама яшчэ захварэла, эпілепсія ў яе, то я мусіла застацца яе даглядаць.

— Ой, Зінка, мужыка табе трэба, каб цябе нехта прыструніў, а то апошняя маладуха Гарліншчыны і сама па сабе швэндаецца, — дазволіў я сабе зачапіць дзяўчыну.

— Дык прыязджай у сваты, — падняла галаву і заўсміхалася маладая свінарка.

— Прыехаў бы, але далекавата ты жывеш. Пакуль даеду, то цябе, такую паву, ужо ўсе кавалеры расхопяць, — аджартаваўся я.

— Пэўна, з такім канём-здыхляком дзе ты прыедзеш! Ён жа напаўдарозе зляжа.

— Ты на майго каня не кажы, запражы лепш свайго. А мой яшчэ лепшы, чым арабскі скакун.

— Ага, такі скакун, што я яго, на адной назе скачучы, абганю.

— Глядзі, каб ты свае чаравікі «дольча-габана» не стаптала, дрэпчучы, — я кінуў позірк на яе падрапаныя кітайскія боцікі на прылепках.

— Даўно табе, мусіць, у каршэнь не давалі... Ці адышоў ад таго, як брат цябе на мінулым тыдні паленам тоўк па галаве?

— Не паленам, а штакецінай ад плота, — папраўіў я.

— Ну ці штакецінай... Ой ужо людзі парагаталі з дурнаватых. Гэта ж брат з братам біўся на людзях. Бо ты павыносіў курэй з катуха і пазаганяў людзям у Гарліншчыне за самагонку, а брату сказаў, што цыганы ўночы курэй пакралі. Яшчэ мала табе брат умалацюў у косці, я б з цябе жывога скуру злупіла за такое.

— Колькі тых курэй было — тры штукі, і тыя паўздохлыя...

— Якія б ні былі, не твае яны, бо ты нават сваіх курэй не нажыў, а толькі гузакі на патыліцы.

Мы пад'язджалі да Азяранаў — паказаліся местачковыя хаты, з каміноў роўнымі слупамі на нязменны мароз узносіўся дым. На ўзбочыне, пад старой голай таполяй, стаяў у паліто, падперазаным вайсковаю дзягаю, і ў шапцы-вушанцы местачковы вар'ят Казюк. На ягоным твары шчацінілася клоччам няроўная барада. Казалі, што Казюк голіцца касою. Казюк таксама быў вучоны: закончыў тэхнікум і працаваў ажно ў Віцебску. Неяк ноччу на яго напалі хуліганы, стукнулі некалькі разоў цаглінаю па галаве. З таго часу Казюк і прыдурнеў — ты яму адно кажаш, а ён чаўпе невядома што. Жонка яго кінула, забраўшы дзіця, і з таго часу небарака жыў у бацькоўскай хаце-развалюсе ў Азяранах. Звычайна ён сядзеў у мароз у местачковай бібліятэцы, грэўся, бо, сам сабе гаспадарачы, не меў ні палена дроў.

— Вунь яшчэ адзін моднік, — кіўнуў я ў бок Казюка, затрымаўшы каня. — Сядай, Казюк, падвязу да Азяранаў, чаго ты сюды зайшоў так далёка?

— Бібліятэку зачынілі, — прамыкаў Казюк, падышоўшы да каня і пагладжваючы яго па пысе. Конь незадаволена фыркаў. Рука Казюка неяк борзда схавалася за спіну, вынырнуўшы адтуль з лязом ад касы, якое, відаць, было заткнутае за дзягу. Казюк паласнуў каня лязом па шыі і падставіў рукі пад гарачую конскую кроў, што зацурболіла струменьчыкам з парай.

— Зімна, хоць пагрэюся, — задаволена і спакойна прамармытаў Казюк.

Першаю апрытомнела Зінка. Яна вырвала з маіх рук пугу і пачала сцябаць Казюка.

— Што робіш, боўдзіла?! Што робіш, сучча вымя! — штосілы і штоенку крычала яна, вылецеўшы з санак, як спалоханая птушка з гнязда. Конь упаў на пярэднія ногі. Я таксама выскачыў і прымерваўся, як выхапіць касу з рук Казюка. Зінка насілася ўзад-уперад, як малая фурыя, сцябала вар'ята пугай па твары. Той ашчэрыўся, выставіў уперад лязо і кінуўся на дзяўчыну. Зінка схамянулася, але не паспела б ухіліцца ад удару касою ў жывот, каб я не адцягнуў яе за рукаво ўбок.

— Ляці ў Азяраны па дапамогу, — я штурхануў яе ў плечы. І без таго задыханая, яна пабегла па зледзянелай дарозе ў бок мястэчка.

«Халера, — закруцілася ў мяне ў галаве. — Яна забрала пугу, а ёй можна было паспрабаваць неяк вырваць ад Казюка касу». Вар'ят стаяў за пару метраў ад мяне, не наважваючыся пакуль атакаваць. Я ўцягнуў далоні ў рукавы фуфайкі, сагнуў рукі і падаўся ўперад, каб локцямі стукнуць Казюка ў грудзі і яго паваліць. Нічога лепшага мне ў галаву не прыйшло, вырашаць трэба было імгненна. Я рэзка з месца кінуўся ў наступленне. У вушах шумела, сэрца тахкала. Казюк, нібы чакаючы, сам скочыў насустрач і паласнуў мяне касою па сцягне. Моцна засмылела, а па калашыне пацякла цеплыня. "Не, не буду сунуцца, жыццё даражэйшае", — думаў я, уцякаючы ад забойцы майго каня ў бок Азяранаў.

Раз-раз, раз-раз, хутчэй. Не здавацца. Дыхалася штораз цяжэй — глыткі марознага паветра апякалі лёгкія. Я павярнуў галаву праз плячо — Казюк ніяк не адставаў. Галоўнае — трымаць тэмп. Адзін, два, тры крокі... дзевяць... трынаццаць... чортаў тузін... "Ўуууооаа", — Казюк зароў за маімі плячыма нялюдскім голасам.

Зараз, можа, Зінка паспее з падмогай. Бегчы — не спыняцца. Чорт усяліўся ў гэтага Казюка, каб ён спрах. І чаму яго ў якой вар'ятні не замкнулі? Мае кірзачы слізгалі па зледзянелай дарозе.

Займала дыханне, смылела ў сцягне. Не ведаю, ці шмат яшчэ вытрымаю. Здавалася, я чую смярдзючы подых Казюка — так блізка ён быў ад мяне. Навошта гэтая дзікая пагоня? Навошта тахканне сэрца і сарванае дыханне? Я азірнуўся яшчэ раз — Казюк паслізнуўся, на маё шчасце, і даўся спінаю аб зямлю, аж дагары задзерліся яго кірзачы. Мо падскочыць і даць нагой у галаву? Не, не паспею — вар'ят пачаў уставаць. І не забіўся ж, злыдзень. Пакуль ён падымаўся, я шмыгануў управа, да рэчкі, якая падступала да дарогі, выгінаючыся берагам са старымі тоўстымі вербамі. Замерзлай Ашмянкай я б хутчэй трапіў на ферму, дзе на сто адсоткаў мусілі быць людзі. Са сцягна бруіла кроў — ці не па якой важнай вене касануў мяне Казюк? Раптам мяне прасвятліла — гэта ж я нібы ад смерці з касою ўцякаю, Ашмянка — як мяжа, а за ёй — нічога.

Я бег, а гарачыя слёзы апякалі мне шчокі. Казюк гнаўся за мною і выў, і ад гэтага выцця мне яшчэ больш хацелася плакаць і скрыгатаць зубамі. Мае горкія слёзы былі і па Казюку, у якога адняло розум, і па сабе гаротным, бо ніколі не буду мець свайго дому і жонкі, і па Зінцы, бяздольнай і недарэцы, але добрай дзяўчыне, і па белым з чырванню сцягу, якога баяцца, як некалі Бога... Ды ці мала па чым можна плакаць. Раптам я заўважыў, што трохі далей на рэчцы, амаль пры самай ферме, якая стаяла на беразе, група дзяцей у шубках коўзалася на санках. Што рабіць? Калені падагнуліся самі, больш бегчы я не мог. Пад кірзачамі Казюка снег зарыпеў неяк вельмі трывожна.

*Лусцішкі — Жупраны*



**Віктар Шукеловіч**
нарадзіўся ў 1982 у Жупранах (Ашмянскі раён). Скончыў беларускі філфак БДУ (2004), тэалагічны факультэт Люблінскага каталіцкага ўніверсітэта (2011).

## КАНЦЭРТЫ

### J-Mors

**27 сакавіка а 22-й у бары Mojito (Незалежнасці, 58)** — акустычны канцэрт гурту J:Mors.

### «Князь Мышкін»

**28 сакавіка ў Музеі-майстэрні Азгура (Азгура, 8)** — канцэрт гурту інтуітыўнай імправізацыі «Князь Мышкін». Пачатак а 18-й.

### «Срэбнае вяселле»

**31 сакавіка а 19-й у клубе «Re:public» (Прытыцкага, 62)** упершыню ў Мінску кабарэ-бэнд з Тулузы Le bestiaire a pampilles выступіць са сваімі сябрамі — кабарэ-бэндам «Срэбнае вяселле».

### Metal All Stars

**1 красавіка ў Палацы спорту (Пераможцаў, 4)** пройдзе грандыёзнае шоу Metal All Stars: два дзясяткі выбітных прадстаўнікоў метал-сцэны выканаюць свае хіты. Пачатак а 19-й.

## ВЫСТАВЫ

### Астрожская Біблія

**У Нацыянальнай бібліятэцы (Незалежнасці, 116)** працуе выстава, на якой прадстаўлены выдатны помнік пісьменства XVI стагоддзя — Астрожская Біблія. Гэта першы поўны пераклад Бібліі на царкоўнаславянскую мову. Кніга была надрукавана па ініцыятыве і на сродкі князя Канстанціна Астрожскага. Фаліянт аб'ёмам у 1256 старонак быў выдадзены немалым па тым часе тыражом — 1500 экзэмпляраў. У фондах бібліятэкі захоўваюцца два арыгіналы гэтага помніка кнігадрукавання.

### Іосіф Гашкевіч: дыпламат, вучоны-арыенталіст

**У межах выставы «Іосіф Гашкевіч: дыпламат, вучоны-арыенталіст»** у Гістарычным музеі (Маркса, 12) адкрылася фотаэкспазіцыя са збору Музея гісторыі фатаграфіі (г.Кракаў), прысвечаная Японіі канца 19 стагоддзя. Іосіф Гашкевіч прыўнёс шмат новага ў жыццё жыхароў японскага горада Хакодатэ. Працуючы там на пасадзе першага расійскага консула ў Японіі, ён пазнаёміў японцаў з мастацтвам фатаграфіі. Па сённяшні дзень з накірункаў у фотамастацтве Японіі называецца хакодацкім.




### «Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі»

**Упершыню гледачы ўбачаць кнігу Сімяона Полацкага «Жазло праўлення»** 1667 года выдання, дзве карціны Марка Шагала і карціну Хаіма Суціна, створаныя ў перыяд росквіту творчасці гэтых вялікіх мастакоў. Асаблівую ўвагу варта надаць карціне выбітнага мастака эпохі рамантызму Валенція Ваньковіча «Партрэт Тамаша Зана». Выстава будзе праходзіць у Нацыянальным мастацкім музеі (Леніна, 20) ад 27 сакавіка да 10 ліпеня.



### Чэмпіянат Беларусі па футболе

**29–30 сакавіка пачынаецца 24-ы чэмпіянат Беларусі па футболе.** Сёлета ў спаборніцтвах возьмуць удзел 12 каманд, якія згуляюць спачатку паміж сабой у два колы, пасля чаго раздзеляцца на шасцёркі. У суботу гуляюць: «Нафтан» (Наваполацк) — «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна), «Мінск» — «Дынама» (Брэст), «Шахцёр» (Салігорск) — БАТЭ (Барысаў). У нядзелю: «Нёман» (Гродна) — «Слуцк», «Дняпро» (Магілёў) — «Дынама» (Мінск), «Гомель» — «Белшына» (Бабруйск).



## ТЭАТРЫ

### 27 сакавіка

**Беларускай драматургіі** — тэатральны капуснік у Міжнародны дзень тэатра
**Лялек** — Чаму старэюць людзі?..
**Купалаўскі** — Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл
**Оперы і балета** — Тры парсючкі, Чароўная флейта
**Юнага гледача** — Брык і Шуся шукаюць лета

### 28 сакавіка

**Беларускай драматургіі** — Гісторыя двух сабак, Купала. Кругі раю
**Зніч** — Прыпадаю да нябёс
**Купалаўскі** — Вечар
**Лялек** — Малы і Карлсан, які жыве на даху
**Оперы і балета** — Тры парсючкі, Рамэа і Джульета
**Юнага гледача** — Казка чароўнага лесу

### 29 сакавіка

**Беларускай драматургіі** — Гісторыя двух сабак, Адамавы жарты
**Купалаўскі** — Ноч на Каляды
**Лялек** — Малы і Карлсан, які жыве на даху
**Оперы і балета** — Балеро
**Юнага гледача** — Беласнежка і сем гномаў

### 30 сакавіка

**Беларускай драматургіі** — Два чароўныя парасоны, Кантракт
**Лялек** — Вясёлы цырк
**Купалаўскі** — Ноч на Каляды
**Оперы і балета** — Стварэнне свету
**Юнага гледача** — Тры парсючкі

### 1 красавіка

**Беларускай драматургіі** — Кантракт
**Купалаўскі** — Вячэра з прыдуркам
**Юнага гледача** — Аднакласнікі

### 2 красавіка

**Беларускай драматургіі** — Кантракт
**Лялек** — Шоўк
**Юнага гледача** — Аднакласнікі

## КІНО

### Краіна малпаў

Тарзан
Прыгоды, мультфільм
**Рэжысёр:** Райнхард Клоас
**У ролях:** Келан Латс, Спэнсар Лок, Трэвар Джон, Лес Баб
Германія, 88 хв.

Даследчыкі дзікай прыроды Клейтан і Портар шукаюць у джунглях Афрыкі сляды ўнікальнай з'явы — месца падзення метэарыта. Пошукі аказваюцца няўдалымі, і Клейтан з сям'ёй пакідае джунглі на верталёце. Раптам пачынаецца бура, і сям'я разбіваецца аб скалы... Цудам выжывае толькі маленькі Джон, і цяпер яго лёс у лапах новай сям'і — арангутангаў.

Чарговая інтэрпрэтацыя вядомага сюжэта пра Тарзана, створанага Бероўзам, не дадае нічога новага для разумення персанажа. Затое гледачы даведаюцца, што ад доўгага захоўвання метэарытаў у скалах у падводным царстве пад імі могуць распладзіцца пачвары з гіганцкімі шчупальцамі, якія забяспечваюць сапраўдны хорар на некалькі хвілін прагляду. (Магчыма, аднак, гэта было прывітанне японскім аніматарам і іх пачварам з шчупальцамі.) Нягледзячы на гэта, мультфільм яркі і нават спазнавальны: асаблівасці паводзінаў малпаў і адаптацыя чалавека да такой кампаніі ўражваюць.

**Настасся Уласава**



# Кітай: брэнды і падробкі

Кітай дагэтуль застаецца адной з самых незвычайных краінаў свету. «Наша Ніва» папрасіла беларускага музыку **Юрыя Навуменку**, які месяц правёў у Кітаі, расказаць, як і чым жыве Паднябесная.

### Гастролі

Я правёў у Кітаі месяц разам з аркестрам Белтэлерадыёкампаніі — за гэты час мы праехалі ля 20 горадоў. Арганізаваў тур кітаец, які жыве ў Расіі. Калі мы прыехалі ў Кітай, гэты чалавек унёс карэктывы ў наш спіс твораў для выканання, бо лепей ведаў, што мясцовай публіцы спадабаецца. У выніку мы гралі некалькі твораў Штраўса, урыўкі з «Лебядзінага возера», а таксама кітайскія творы — «Наша армія», «Вясёлы салдат», такія сабе патрыятычныя хіты. Але апафеозам кожнага вечара была песня «Лотас у ставочку» —гэта агульнакітайскі хіт, які ведае кожны.

### Правінцыя

У асноўным мы выступалі ў правінцыйных гарадах, аднак у выпадку Кітая — гэта горад ад мільёна і вышэй. Было такое адчуванне, што некаторыя шэрагі займалі выключна супрацоўнікі кампартыі. У правінцыі ўсім было надзвычай цікава — як высветлілася, некаторыя з гледачоў упершыню ў жыцці бачылі сімфанічны аркестр.

Найчасцей выступалі ў кінатэатрах — вось цікава, у Кітаі нам амаль не сустракаліся памяшканні з ацяпленнем, у залах было надзвычай холадна, і награвалі іх пры дапамозе вялікіх кандыцыянераў. Да таго ж падлога на большасці пляцовак — з бетону.

Дарэчы, у маіх пекінскіх сяброў падлога каменная, і гэта лічыцца плюсам — дапамагае ў спёку летам. Звычайнага ацяплення ў кітайскай правінцыі мы не бачылі, звыклыя батарэі мы бачылі толькі ў Пекіне.

Перад пачаткам канцэртаў і ў антракце была неймаверная колькасць рэкламы: алкаголь, аўтамабілі ці проста нават ролікі пра светлую будучыню краіны. Культура праслухоўвання зусім іншая: у правінцыйных гарадах амаль усе гледачы прыходзілі з ссабойкамі, елі ўвесь час, размаўлялі па мабільніках, што для нас было нязвыкла. Пасля канцэрта імкнуліся сфатаграфавацца з аркестрантамі, смецця ў залах заставалася шмат.




**Юрый Навуменка**

беларускі кантрабасіст, нарадзіўся ў Мазыры ў 1980-м. Грае ў шэрагу беларускіх аркестраў, у тым ліку выступаў з Эніа Марыконэ ў складзе прэзідэнцкага аркестра. Удзельнік гуртоў «Нагуаль», «Маланка-Orchestra» і *Big Daddy Blues*, выкладчык музыкі.



**Віза**

каштуе ад $90. Пералёт ад Мінска да Пекіна і назад каштуе каля 500—700 еўра. З Варшавы ці Масквы можна знайсці акцыю за 200—300 еўра.

Кітайскія нававуды.

### Кітай і камунікабельнасць

У Кітаі я сустрэў свайго сябра, француза Давіда, які шмат гадоў пражыў ва Украіне, Венгрыі, а вось цяпер жыве ў Пекіне, выкладае ва ўніверсітэце французскую мову. Зарабляе ён, дарэчы, больш чым у Еўропе — у Кітаі вельмі цэняцца еўрапейскія выкладчыкі.

Па яговых словах, кітайцы надзвычай камунікабельныя, аднак трымаюць адзін аднаго на адлегласці. Напрыклад, калі я прыехаў у Пекін, Давід мусіў святкаваць сканчэнне сезона разам з бейсбольнай зборнай, у якой гуляе, папрасіў у трэнера дазвол запрасіць мяне. Той адмовіў. Нічога сакрэтнага на сустрэчы не было — проста бейсбольная зборная адпачывала ў адным з мясцовых бараў. Увогуле, у кітайцаў не прынята праводзіць час з сябрамі, абсалютная большасць адразу пасля працы адпраўляецца дадому.

Аднак мушу заўважыць, што кітайцы надзвычай ветлівыя і заўсёды імкнуцца табе дапамагчы, вельмі добразычлівыя людзі.

### Мао Цзэдун

Мао ў Кітаі дагэтуль паўсюль — ягоныя выявы сталі своеасаблівай фішкай, яго можна ўспрымаць як брэнд, кітайцы гэтым актыўна карыстаюцца. Выявы былога правадыра вы ўбачыце паўсюль. Ён стаў мясцовай экзотыкай, як Ленін у Беларусі.

### Культ працы

Працуюць з ранку і да вечара, любы горад нагадвае мурашнік да 22-й гадзіны. Да культу працы дадаецца іншы — культ сям'і. Там прынята пасля працоўнага дня адразу ісці дадому, быць з сям'ёй. Пры гэтым праца можа не спыняцца нават ноччу — у Пекіне можна пачуць, як сярод ночы працуюць адбойныя малаткамі на якой-небудзь будоўлі. Раней у Кітаі ўвогуле не было выхадных, і калі еўрапейцы здзіўляліся, то кітайцы казалі: «А навошта?»

Вось цікавы факт: два-тры тыдні на год тэмпература на вуліцы ўздымаецца вышэй за 40 градусаў, аднак па тэлевізары будуць паведамляць, што тэмпература трымаецца на ўзроўні +39, бо калі яна ўздымецца да +40, давядзецца спыняць вытворчасць, таму афіцыйна 40 градусаў там не бывае. Калі кітайцы дзе і адпачываюць, то гэта караоке-бары — такія вялікія забаўляльныя цэнтры са стрыптызам, алкаголем і іншымі рэчамі.



Так выглядае вулічны гандль у кітайскай правінцыі.

**Колькасць працоўных гадзін — 40**

Афіцыйна працоўны дзень складае пяць дзён, як і ў Еўропе. Але ў рэчаіснасці сярэдні кітаец працуе нашмат больш. Сярэдні заробак афіцыйна складае $620, аднак, да прыкладу, сельская гаспадарка, у якой занятая большая частка насельніцтва, не мае заробку, а жыве на ўласны даход. Заробак рабочых моцна вар'іруецца ад правінцыі да правінцыі.

### Экалогія

З экалогіяй у Кітаі вялікія праблемы — знакаміты смог над горадам не легенда: адночы нас папярэдзілі — надвор'е дрэннае, аранжавы ўзровень небяспекі. Гэта значыць, што смог не рассейваецца і варта надзяваць марлевую павязку, без яе адчуваеш дыскамфорт, дыхаць становіцца цяжка. Дарэчы, калі едзеш аўтобусам праз краіну, кідаецца ў вочы, што нават у стэпах нідзе няма ніводнага «дзікага» кавалачка, уся зямля апрацоўваецца. А калі сустракаецца лес — ён расце роўным радком, нават дзіўна. Пасля нам растлумачылі, што гэта спецыяльна пасажаныя дрэвы, якія садзілі іх, каб хоць трошкі падраўняць экалогію.

### Сельскія могілкі

Калі едзеш у аўтобусе, часам на вочы трапляюцца маленькія курганочкі сярод раллі. Ён можа быць адзін, можа быць два-тры. Высветлілася, што гэта мясцовая традыцыя пахавання. У Кітаі пахаванне — гэта надзвычай дарога. Па некаторых звестках, пахаванне тут абыходзіцца ў $1200. Дарэчы, звыклыя могілкі мы, праехаўшы вялікую частку краіны, бачылі толькі адзін раз.

### Еўрапейская культура

Вось мы там еўрапейскай культурай і былі — еўрапейскі аркестр, які грае класіку. Дарэчы, «Блакітны Дунай» наш імпрэсарыа забракаваў, сказаў, што надта манатонны.

У правінцыі з еўрапейскай культурай цяжка. У сталіцах ёсць «еўрапізаваныя» бары ў стылістыцы 60-х гадоў, зназвамі кшталту *School-Bar*. Туды прыходзіць крэатыўная моладзь, слухае музыку.

### Гандаль

У Кітаі ёсць цэлая індустрыя турызму — будуецца на адмысловай праграме, разлічанай на еўрапейцаў. Напрыклад, мы едзем у маўзалей Мао і імператарскі палац. Пасля — чайная цырымонія. Пад'ехалі да чайнай крамы, а адтуль ужо папярэдняя група спускаецца.

Я разбіраюся ў гарбаце, таму ведаў, што пасля цырымоніі яе прадаюць па завышаных цэнах. Але нашыя турысты купляюць. Пасля бачаць розніцу.

**Мао Цзэдун**

(1893—1976) , кітайскі палітык, ад 1943 года і да смерці займаў пасаду старшыні кітайскай кампартыі. Правёў некалькі гучных кампаній, самымі вядомымі з якіх сталі «Вялікі скачок» і «Культурная рэвалюцыя» (1966—1976), якія забралі жыцці многіх мільёнаў людзей. Падчас праўлення Мао Цзэдуна ў Кітаі праводзіліся рэпрэсіі, якія крытыкаваліся не толькі ў капіталістычных, але нават у сацыялістычных краінах. Таксама ў той перыяд існаваў культ асобы Мао Цзэдуна.

Наступны пункт — шоўк, спецыялізаваная крама. Нашыя кажуць, пасля гарбаты мы ўжо вучоныя, аднак у пэўны момант пачынаюць купляць бялізну і падушкі, якія каштуюць у іншым месцы ў чатыры разы танней. Пасля тыя самыя падушкі нам паспрабавала прадаць усё тая ж дзяўчына з крамы, толькі прыйшла ў аўтобус, і цэны былі зусім іншыя.

### Брэнды і падробкі

Нашыя аркестранты набылі на рынку гадзіннік «Ролекс» за 10 юаняў — гэта трохі меней за два даляры. На пытанне «А ён сапраўдны?» прадавец адказваў:«Сапраўдны». «А чаму стрэлка не працуе?» Высвятляецца, што такіх «Ролексаў» у яго поўная кішэня. Дарэчы, цікава: у Кітаі ўсе ходзяць у «брэндавым» адзенні, кшталту *Gucci*, хоць усе ведаюць, што яно не сапраўднае — мне падаецца, гэта такі момант удзелу ў заходняй цывілізацыі. Дарэчы, тыя самыя крамы з гарбатай маюць відавочнае адрозненне — ёсць крамы для бяднейшых, ёсць для багатых людзей, дзе «колца» гарбаты 300 грамаў каштуе 13 000 даляраў. Адрозніць іх лёгка — дарагія крамы аздобленыя, у іх на ўваходзе будзе папугай, які з вамі павітаецца, і грае жывая музыка.

### Калектыўны адпачынак

Што яшчэ ўразіла — калектыўны адпачынак. У індустрыяльных гарадах у парках збіраецца шмат пенсіянераў, гуляюць у нарды, у даміно, запускаюць паветранага змея: уявіце, дзядуля запускае паветранага змея паміж 20-павярховікамі. Ці збіраюцца бабулькі разам і спяваюць песні пад акампанемент народных інструментаў ці сінхронна робяць гімнастыку — у нас такога, на вялікі жаль, няма. У гіпермаркетах папулярныя кніжныя аддзелы — людзі проста садзяцца там і чытаюць, і такіх людзей адразу дзесяць чалавек.

### Што трэба памятаць?

Хіба што пра экалогію — з ёй там цяжка. Увогуле, Кітай — надзвычай цікавая краіна, з унікальнай культурай, і зараз ён адкрыты для турыстаў, хай і не танны. Яшчэ пра што лепей памятаць: не вельмі добра ў кітайцаў з англійскай моваю, але людзі яны адкрытыя і заўжды паспрабуюць вам дапамагчы.

Запісаў Юрась Ускоў



Сотні беларусаў 22 сакавіка ўзялі ўдзел у шэсці памяці Каліноўскага ў Вільні. У гэты дзень 150 гадоў таму кіраўнік антырасійскага паўстання 1863—1864 быў пакараны смерцю на Лукішскай плошчы.




34-гадовая Наталля Паклонская, новы генеральны пракурор Крыма стала гераіняй японскага анімэ. Яна атрымала імя «Няша-Наташа». Падчас падзей на Майдане Паклонская звольнілася з органаў пракуратуры, патлумачыўшы гэта тым, што яна «не можа выконваць свае абавязкі, калі на вуліцах гуляюць бандыты». У сакавіку яна была прызначаная генпракурорам Крыма.



Рэжысёр Раман Паланскі прадставіў мюзікл «Баль вампіраў» у тэатры *Mogador* у Парыжы. Прычым зрабіў ён гэта вельмі эфектна, з’явіўшыся на сцэне ў сапраўднай труне.




Напярэдадні Крымскага рэферэндуму Дэпард’ё замовіў партыю эксклюзіўных гадзіннікаў «Ганаруся быць рускім». Двухгаловы арол выкананы з золата. Кошт эксклюзіўных гадзіннікаў не паведамляецца.



## Анекдоты і жарты

* * *

Кастусь на ўроках беларускай мовы больш за ўсё не любіў рабіць пераносы, але ўсё роўна стаў грузчыкам.

* * *

Пасля анексіі Крыма Лукашэнка першы раз пашкадаваў, што ў Еўропе і Амерыцы цяпер палітыкі «без яйцаў».

* * *

У месцы, дзе я нарадзіўся, горадаўтваральным прадпрыемствам быў самагонны апарат.

* * *

Сядзіць варона на суку, у роце сыр. Унізе ліса бяжыць:

— Варона, ты на выбары пойдзеш?

— Не!

Сыр падае. Варона сядзіць і думае: «А калі б я сказала «так», што небудзь змянілася б?»

* * *

У заапарку дзяўчына ў леапардавых легінсах распужала казуляў.

* * *

Спецыяльная камісія Савета Федэрацыі вывучае легітымнасць указа Аляксандра II аб адмене прыгоннага права.

* * *

Я пераязджаў з горада ў горад, з кватэры на кватэру. Але гэтая сволач з перфаратарам кожны раз знаходзіць мяне і селіцца за сцяной!

## «НН» сто гадоў з вамі

**Яйка нас збагаціць.** Дацкія сяляне яечным таварыствам паднялі прыбытак ад курэй да 3-5 рублёў з кожнай. Аб гэтым нам і не снілася.

Тым часам ад нас яйкі таксама вывозяцца ў Англію і маглі б заняць там першае месца па смаку. Дацкаму селяніну прыходзіцца курэй трымаць зачыненымі ў катухах, бо выпусціць няма куды. Яйкі дацкія ад гэтага нясмачныя. Нашы куры ходзяць усе дні, жыруючы; гэтым нашы яйкі будуць куды смачнейшыя ад другіх.

**«НН». №13. 1914.**

**Подзвіг невядомай курыцы.** Наш новы рэкорд у кнізе Гінэса здольны змяніць імідж краіны. У Беларусі куры могуць несці «нечалавечых» памераў яйкі!

Невядомая чубатка з Чырвонаармейскай птушкафабрыкі, што ў Міры, знесла яйка ажно на 160 грамаў (норма 50—60). Гэта на добрыя 12 г болей за папярэдні рэкорд, зафіксаваны... на Кубе.

**«НН». №12. 2004.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8002. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 25.03.2014.
Замова №1009.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614

